КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 38 (359) ◂ 11 кастрычніка ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ГАРЫ ПАГАНЯЙЛА

Стар. 15

## ІВАН ШЭГА : У ПОШУКАХ ПРАЎДЫ

Іван Шэга бясплатна лечыць хворых. Бывае па 5–6 чалавек у дзень, бо людзі просяцца да яго, яму давяраюць

Стар. 4

## ОРБАН ШУКАЕ МЭТЫ НА ПАДДАШКУ

Ці можа ЕС паўплываць на палітычныя працэсы ў Венгрыі? Якую вайну вядзе прэм’ер Орбан? Пра гэта разважае экс-міністр замежных спраў, першы еўракамісар Венгрыі, а зараз кіраўнік Цэнтра даследаванняў пашырэння ЕС Цэнтральнаеўрапейскага ўніверсітэта (CEU) Петэр Балаш

Стар. 6

## КРЭПАСЦІ, ЯКІХ БАЯЎСЯ СТАЛІН

Стар. 14

ISSN 2218-2144




**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**НАЙВЫШЭЙШАЯ КАШТОЎНАСЦЬ**

Артыкул Міхаіла Пастухова

З НАГОДЫ

# СТАМІЛІСЯ АД СТАБІЛЬНАСЦІ

Сяргей ПУЛЬША

**Усё ў Беларусі ідзе па накатанай. Але народ тым незадаволены. Нягледзячы на гэта, рэйтынг кіраўніка Беларусі расце, аднак… Усё можа змяніцца ў любы момант. Як кажуць у народзе, сапраўдны капец прыходзіць незаўважна.**




Апошнія дадзеныя Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Літва) фіксуюць нязначны, але ўпэўнены рост рэйтынгу Аляксандра Лукашэнкі. За другі квартал узровень даверу прэзідэнту практычна не змяніўся: сёння яму давяраюць 46,7% насельніцтва, а не давяраюць 36,6% (у чэрвені было 48,9% супраць 40,6 %). Электаральны рэйтынг Аляксандра Рыгоравіча працягвае пакрысе расці: калі ў сакавіку на новых прэзідэнцкіх выбарах за яго гатовыя былі прагаласаваць 33,4%, у чэрвені — 37,3%, то сёння — 42,6%.

Пэўна, гэтаму спрыяе так званая «беларуская стабільнасць». Усе эканамісты адзначалі: заробак у Беларусі за гэтыя часы рос апераджальна вытворчасці працы — то бок, мы «выпускалі ў абарот» грошы, якія не зарабілі. Тым не менш, гэтую «стабільнасць» народ і падтрымлівае, нягледзячы на тое, што ў доўгатэрміновым, і нават сярэднетэрміновым плане нам гэта можа вельмі балюча адгукнуцца. Але пакуль улада худа-бедна выконвае свае абавязкі перад грамадзянамі, то чаму б яе яшчэ і не патрываць?

Пра тое, што беларусы згодныя «патрываць», сведчыць колькасць сапраўдных прыхільнікаў Лукашэнкі — толькі 18,4% выбаршчыкаў «цалкам падзяляюць» погляды кіраўніка дзяржавы. 13,5% гатовыя падтрымліваць Аляксандра Лукашэнку да тае пары, пакуль ён «будзе адстойваць незалежнасць Беларусі», а 14% падтрымліваюць яго «за адсутнасцю іншых годных палітычных дзеячаў».

Варта адзначыць, што ў той жа час, пры 18,4% тых, хто цалкам падзяляе погляды кіраўніка дзяржавы, 23,2% заявілі, што «не з’яўляюцца прыхільнікам Лукашэнкі». А яшчэ 9,7% адказалі, што гатовыя падтрымліваць «каго заўгодна, але не Лукашэнку».

З такой пазіцыяй вельмі складана ісці на прэзідэнцкія выбары. Пра частку тых, хто верыць, што Аляксандр Лукашэнка з’яўляецца гарантам незалежнасці Беларусі, можна прамаўчаць. Гэта, дарэчы, патэнцыял Партыі БНФ, якая стала і паслядоўна выступае за захаванне незалежнасці. Варта толькі Партыі БНФ па тэлебачанні давесці да насельніцтва пра расійскія вайсковыя базы і выступіць супраць прыватызацыі буйных стратэгічных прадпрыемстваў, і з электарату Аляксандра Рыгоравіча гэтыя людзі плаўна перацякуць у БНФ.

«Годныя палітычныя дзеячы» могуць з’явіцца падчас прэзідэнцкай кампаніі. У такім выпадку, дарэчы, новая тактыка часткі апазіцыі з лозунгам: «Не хто замест Лукашэнкі, а што замест яго» яўна прайграе ў вачах народа. Трэба думаць, і хто замест «адзінага палітыка», і што замест яго — таксама. То бок, праблема вырашаецца ў комплексе.

Дарэчы, рэйтынг даверу апазіцыйным партыям і рухам, згодна НІСЭПД, склаў 15,3%. Гэта зразумела, бо ўся апазіцыя летам упала ў інфармацыйную кому. У яе была іншая стратэгія — сустрэчы з насельніцтвам «твар да твару», вырашэнне мясцовых праблем і стварэнне кааліцыяў.

Зараз кааліцыйныя праблемы, збольшага, вырашаныя. На носе мясцовыя выбары, а за імі — прэзідэнцкія. Выбарчы час — традыцыйны час, у які можна «адцягнуць» ад Аляксандра Рыгоравіча тыя самыя «няўпэўненыя» ў ягонай падтрымцы 27,5%, паказаўшы новыя стратэгіі і новыя твары. Іншай магчымасці «засвяціцца», апроч як падчас выбараў, у апазіцыі папросту няма.

У той жа час эканамічная сітуацыя ў Беларусі ахавая. Насельніцтва гэта не асэнсоўвае розумам, але ж вельмі дакладна адчувае іншымі часткамі цела, адказнымі за інтуіцыю. 28,1% апытаных НІСЭПД лічаць, што сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў бліжэйшыя гады пагоршыцца, а 46,7% думае, што яна не зменіцца. Гэта самае «не зменіцца» — таксама кепскі прагноз, бо 57,4% апытаных адзначаюць, што беларуская эканоміка знаходзіцца ў крызісе.

«Замацаванне сацыяльных індэксаў у адмоўнай зоне (перавышэнне колькасці прыхільнікаў песімістычных прагнозаў развіцця краіны над «аптымістамі») варта разглядаць у якасці галоўнай характарыстыкі беларускай стабільнасці апошніх гадоў. Двухзначны рост даходаў насельніцтва апынуўся ў дадзеным выпадку нямоглым. Не складана выказаць здагадку, як павядуць сябе сацыяльныя індэксы пры запаволенні тэмпаў росту даходаў насельніцтва. Калі ж справа дойдзе да рэальнага (не намінальнага) зніжэння заробкаў і пенсій, то абсалютныя мінімумы сацыяльных індэксаў, зафіксаваныя ў чэрвені-верасні 2011 года, могуць быць і перакрытыя», — адзначаюць эксперты НІСЭПД.

Калі браць гэтую сітуацыю з пункту погляду кіраўніка дзяржавы — у труне ў белых тапках бачыў ён «сацыяльныя індэксы» НІСЭПД. Для яго галоўнае, што ў чэрвені-верасні 2011 года ягоны рэйтынг склаў 20,5%. Калі крызіс зацягнецца, а сітуацыя пагоршыцца да абвалу ў 2014 — напачатку 2015 года, то выйграць выбары ў гэткім становішчы будзе вельмі складана. Нават нягледзячы на ўстойлівую працу пенсіянеркі Лідзіі Ярмошынай.

Выратаваць сітуацыю можа толькі карэнная перабудова Беларусі. Беларусы настолькі стаміліся жыць у крызіснай стабільнасці, што іх не пужаюць зараз нават успаміны пра першую «перабудову», і пра «ліхія 90-я».

Апытанне НІСЭПД паказвае: за пажаданасць не абы-якіх, а кардынальных переменаў выказваецца 50,3% беларусаў. Яшчэ 21,1% «беларуская рэчаіснасць» абрыдла да такой ступені, што да «кардынальнага» тыпу пераменаў яны ставяцца нават абыякава. Супраць такіх пераменаў выступае толькі пятая частка насельніцтва — 20,2%.

Так што на бліжэйшых выбарах народныя чаканні будуць спраўджваць тыя, хто нацэлены на кардынальныя перамены. Здавалася б, гэта менавіта апазіцыя, ад якой народ чакае актыўных дзеянняў у гэтым накірунку. Але ж сярод прыхільнікаў Лукашэнкі доля «веруючых у перамены» ў тры разы вышэй, чым сярод яго праціўнікаў.

Здаецца, улада паціху была загнаная ў кут, пра які так доўга казалі аналітыкі: трэба альбо рэфармавацца, альбо сысці. А вось ці здольная ўлада да карэнных рэформаў — гэта ўжо іншае пытанне.

ДАСЛЕДАВАННЕ

# ЗЛАЧЫНСТВА І ПАКАРАННЕ

Генадзь КЕСНЕР

**Напярэдадні сусветнага дня барацьбы супраць смяротнага пакарання ў Мінску прайшла прэзентацыя сацыялагічнага даследавання «Злачынства і пакаранне: успрыняцце, ацэнкі і стаўленне грамадства».**

Даследванне ладзілася дэпартаментам сацыялагічных і маркетынгавых даследаванняў групы кампаніяў «Сацio». А ініцыятарамі выступілі беларускія праваабаронцы. Дапамог у гэтым Маскоўскі офіс «Penal Reform International» (Міжнародная турэмная рэформа), партнёрамі праекта выступілі БХК, БАЖ, міжканфесійная місія «Хрысціянскае сацыяльнае служэнне». Было апытана 1110 чалавек у розных рэгіёнах краіны, рэпрэзентатыўная памылка не перавышае 2,8%.

Слоганам даследавання і яговых вынікаў ёсць: «Несмяротнае пакаранне. Таму што мы людзі». Аб'ём даследавання — сто друкаваных аркушаў са шматлікімі дыяграмамі. У ім можна даведацца не толькі пра агульнае стаўленне беларусаў да праблемы смяротнага пакарання, але і высветліць, што траціна суайчыннікаў (33%) увогуле не маюць адэкватнага паняцця пра сітуацыю з расстрэльнымі прысудамі. 10% апытаных былі ўпэўненыя, што ў Беларусі даўно адменена смяротнае пакаранне, яшчэ 7% верылі ў тое, што смяротнае пакаранне прыпынена. 5,5% рэспандэнтаў былі ўпэўненыя, што ў нашай краіне ўжо дзейнічае мараторый на расстрэлы, і яшчэ 10% увогуле не змаглі нічога сказаць.

Разам з тым, 36,2% рэспандэнтаў мяркуюць, што смяротнае пакаранне варта пакінуць на цяперашнім узроўні, 16,6% апытаных выступаюць за тэрміновую адмену расстрэлаў, 12,4% выказаліся за мараторый і 15,5% лічаць, што трэба паступова ісці да адмены смерці як пакарання. Асноўнай высновай гэтага даследавання ёсць тое, што нельга дзяліць беларусаў на тых, хто за смяротнае пакаранне, і тых, хто супраць, «таму што вельмі вялікі працэнт людзей выступае за так званую «падушку бяспекі» ў выглядзе мараторыя, бо людзі лічаць вялікай верагоднасць судовай памылкі, якая можа прывесці да незваротных наступстваў».

Дарэчы, распрацоўніца камунікатыўнай адзначыла праекта Юлія Ляшкевіч адзначыла: вельмі вялікая колькасць апытаных заявілі, што тэма смяротнага пакарання недастаткова асвятляецца ў сродках масавай інфармацыі.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СТАТКЕВІЧ АДМОВІЎСЯ АД МЕДЫЧНАЙ ДАПАМОГІ

Сяргей ПУЛЬША

**Праблемы са здароўем адміністрацыя Магілёўскай турмы №4 выкарыстоўвае для ціску на экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча. У выніку, Статкевіч наогул адмовіўся ад медыцынскай дапамогі.**

Пра гэта Статкевіч напісаў у Генпракуратуру. Палітвязень заявіў, што яго звароты па медыцынскую дапамогу пастаянна выкарыстоўваюцца адміністрацыяй як сігнал для арганізацыі супрацьпраўнага ціску шляхам незаконнага стварэння ўмоў для абвастрэння захворванняў.

Як піша Статкевіч, 3 жніўня ў яго забалела шыя, а пасля абеду ягоны стан пагоршыўся. Ён сядзеў на ложку, прыхіліўшыся спіною да сцяны, што не забаронена турэмнымі правіламі. Прыблізна ў 15.30 нейкі супрацоўнік турмы праз назіральную шчыліну спытаў, ці не захварэў ён. Статкевіч адказаў адмоўна, але сукамернік паведаміў пра кепскі стан Статкевіча. У 16 гадзінаў Статкевіча без ягонай просьбы вывелі ў медчастку, дзе быў зафіксаваны павышаны ціск і аказана медычная дапамога.

На наступны дзень, 4 жніўня, стан здароўя Статкевіча пагоршыўся. На вячэрняй паверцы ён сам папрасіўся да лекара. Але да лекара Статкевіча не павялі. У выніку яму стала дрэнна, ён страціў прытомнасць і ўпаў на ложак. Сукамернік стаў націскаць на сігнальную кнопку, стукаць па дзвярах, каб дзяжурны кантралёр выклікаў лекара, але на гэтыя дзеянні кантралёр не рэагаваў. Толькі хвілін праз дваццаць, калі палітвязню стала крыху лепш, дзяжурны кантралёр усё ж адвёў палітыка да лекара.

Але на наступны дзень Статкевічу паведамілі: кепска яму не было. Аказваецца, 3 жніўня ён «спаў на ложку», і быў "узняты" намеснікам начальніка турмы падпалкоўнікам Кузьмянковым Аляксандрам Іванавічам.

Сон на ложку ў дзённы час ёсць парушэннем рэжыму адбыцця пакарання, пра што на Статкевіча быў складзены адпаведны акт. Мікалаю не змаглі адказаць, якім чынам ён спаў, як гэта было ўстаноўлена, чаму яму не зрабілі заўвагу і чаму ў той дзень ён наогул не бачыў падпалкоўніка Кузьмянкова. Адразу пасля гэтага Статкевічу прапанавалі адказаць на пытанне, ці прызнае ён сябе вінаватым у "арганізацыі масавых беспарадкаў" 19 снежня 2010 года. Статкевіч віны не прызнаў.

З «парушэннем» сітуацыя зразумелая. Тры парушэнні — і чалавек з'яўляецца «злосным парушальнікам рэжыму». А гэта — скарачэнне перадачаў, спатканняў з роднымі і скарачэння сумы, на якую можна закупляць прадукты ў турэмнай краме. То бок, яшчэ адна форма ціску.

«Пастаяннае і сістэматычнае выкарыстанне інфармацыі аб праблемах са здароўем для пагаршэння гэтых праблем з'яўляецца адным са спосабаў павольнага забойства. У сувязі з гэтым прашу высветліць, хто аддае незаконныя распараджэнні кіраўніцтву папраўчай установы ажыццяўляць такое забойства», — пісаў Статкевіч у пракуратуру.

Да пракуратуры ліст, здаецца, не дайшоў. 16 верасня палітвязень атрымаў адказ на скаргу з Магілёўскага абласнога ўпраўлення дэпартамента выканання пакаранняў МУС. Дэпартамент, зразумела, парушэнняў у дзейнасці адміністрацыі калоніі не выявіў.

10 КАСТРЫЧНІКА

# СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Генадзь КЕСНЕР

**Беларускія праваабаронцы правялі з 5 да 10 кастрычніка тыдзень супраць смяротнага пакарання.**

Для Беларусі тэма расстрэльных прысудаў застаецца надзвычай актуальнай. Пра гэта распавядалі на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 10 кастрычніка ў офісе незарэгістраванага Праваабарончага цэнтра «Вясна».

Каардынатар праекта «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» Андрэй Палуда адзначыў, што цягам гэтага часу адной з самых значных падзеяў стала анлайн-прэзентацыя музычнага праекта «Апошні золак». «У праекце ўдзельнічалі вядомыя музыкі розных накірункаў і жыццёвых поглядаў, якія аб'ядналіся вакол адной тэмы. Мне падалося, што гэта сур'ёзна сведчыць пра важнасць пытання смяротнага пакарання для грамадства», — адзначыў Палуда.

Акрамя таго, была прэзентавана інтэрнэт-старонка, прысвечаная гэтай тэме, у сеціве з'явіўся адмысловы рок-падкаст. У шэрагу рэгіёнаў краіны праведзены дыскусіі на тэму смяротнага пакарання з раздачай адпаведных друкаваных матэрыялаў. «У Віцебску, Гродна, Жлобіне, Бярозе былі пададзены заяўкі на правядзенне пікетаў супраць расстрэльных прысудаў, але ніводная з іх не была задаволеная», — паведаміў праваабаронца.

Сёлета ў Беларусі вынесеныя ўжо тры смяротныя выракі. Не выключана, што іны будуць выкананыя. Маці аднаго з прыгавораных, Тамара Сілюн, якая прысутнічала на прэс-канферэнцыі, не апраўдвала дзеянняў свайго сына, лічачы яго вінаватым, але, плачучы, сказала, што гатовая маліць Аляксандра Лукашэнку на каленях, каб ён памілаваў Паўла.

Андрэй Палуда, які з'яўляецца даверанай асобай Сілюна ў Камітэце ААН па правах чалавека, паведаміў, што 2 кастрычніка 2013 года Камітэт за № 2289/2013 зарэгістраваў зварот у гэтую структуру Паўла Сілюна. Палуда пісьмова звернецца з інфармацыяй пра гэты зварот у МЗС, МУС, Генпракуратуру і Вярхоўны суд Беларусі, каб паспрабаваць прадухіліць выкананне прысуду да разгляду яго справы ў Камітэце ААН.

Намеснік старшыні «Вясны» Валянцін Стэфановіч звярнуў увагу: нават беларускія афіцыйныя навукоўцы прызнаюць, што наяўнасць смяротнага пакарання ніяк не ўплывае на колькасць забойстваў. Але самае прыкрае, што і сама дзяржава, прысуджаючы расстрэлы і выконваючы іх, робіцца такім жа самым забойцам.

ПРАГРАМА

# НАШЫ Ў БУНДЭСТАГУ

Сяргей ПУЛЬША

**Патрапіць на працу ў Бундэстаг не проста, а вельмі проста. Трэба толькі добра ведаць нямецкую мову, быць маладым спецыялістам і займаць актыўную жыццёвую пазіцыю. І, канешне ж, паўдзельнічаць у праграме «Міжнародная парламенцкая стыпендыя», якую штогод праводзіць Германія.**

Гэтымі днямі ў Мінск завітала дэлегацыя нямецкага Бундэстага, каб абраць пяць чалавек з Беларусі, якія пройдуць пяцімесячную стажыроўку ў якасці памочніка дэпутата нямецкага Бундэстага. Менавіта пра гэта і пра праграму Міжнароднай парламенцкай стыпендыі распавёў журналістам у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры адзін са сталых удзельнікаў гэтай праграмы, ужо былы дэпутат нямецкага парламента Бернд Шэлен.

У праграме ўдзельнічаюць студэнты з 28 краін свету. Штогод 120 маладых людзей на пяць месяцаў прыязджаюць у Берлін, каб прайсці стажыроўку ў Бундэстагу, паглядзець, як працуе нямецкі парламент і на сваім досведзе зразумець, чым займаецца нямецкі дэпутат. Беларусь далучылася да гэтай праграмы ў 2008 годзе.

З 1 сакавіка па 31 ліпеня маладыя людзі становяцца «правай рукой» нямецкага дэпутата. Яны паўнавартасна ўдзельнічаюць у працы дэпутата, разам з ім знаходзяцца на пленарных пасяджэннях у парламенце, удзельнічаюць у працы сталых парламенцкіх груп, ходзяць на пасяджэнні парламенцкіх фракцый і гэтак далей. То бок, разам з дэпутатам выконваюць ягоную працу. У гэтым працэсе яны і знаёмяцца з тым, як ажыццяўляецца заканатворчая дзейнасць у Германіі.

Аднак сесія ў нямецкім Бундэстагу доўжыцца, зразумела, не пяць месяцаў, а 7–8 тыдняў. Пасля сесіі стажор працы з дэпутатам не перарывае. Ён едзе разам з ім у выбарчую акругу, каб пабачыць, што дэпутат робіць для выбаршчыкаў.

У перыяд пяцімесячнага знаходжання ў Германіі студэнты залічваюцца ва Універсітэт імя Гумбальта ў Берліне і атрымліваюць магчымасць наведваць навучальныя заняткі.

Адпаведна, студэнтам даецца жыллё, аплачваецца праезд і медычная страхоўка, а таксама выплачваецца стыпендыя — каля 450 еўра на месяц.

Спадар Шэлен ужо тройчы прыязджаў тэставаць беларускіх студэнтаў для такой праграмы. Па ягоных словах, ён вельмі задаволены падрыхтоўкай беларусаў. Але, на жаль, пра конкурс ведае не так ужо і шмат народа: на пяць месцаў сёлета прэтэндавалі толькі 10 чалавек, хаця летась прэтэндэнтаў было ўдвая больш.

Моўная падрыхтоўка, па словах Шэлена, канешне, момант неабходны. Але не менш неабходным момантам з'яўляецца актыўная жыццёвая пазіцыя чалавека. Ну і, канешне ж, узрост: прэтэндэнт на момант пачатку праграмы павінен быць не старэйшым за 30 год.

Усе пяць чалавек, якіх адабралі ў гэтым годзе, — дзяўчыны ва ўзросце 24–26 гадоў. Гэта з'яўляецца, па ягоных словах, праблемай усёй праграмы: на 80% стажоры Бундэстага з усіх 28 краінаў з'яўляюцца стажоркамі, што ў «гендэрна правільнай» Германіі не ёсць добра.

Гэтая праграма прызначаная не толькі для азнаямлення з працай дэпутата і адукацыяй. Немцы — народ практычны, і імкнуцца атрымаць дадатковую аддачу ў выглядзе ўсталявання сувязяў паміж самімі стыпендыятамі з розных краінаў. Дзеля гэтага праводзяцца агульныя вечарынкі, іншыя мерапрыемствы. Стыпендыятам прадстаўляецца на дваіх трохпакаёвая кватэра ў Берліне, але ў гэтую кватэру не патрапяць разам жыць, скажам, дзве беларускі. Абавязкова ў такой кватэры будуць жыць прадстаўнікі ці прадстаўніцы розных краінаў. Гэта — дадатковы імпульс для разумення чужой культуры і як мага лепшай прэзентацыі сваёй краіны.

Інфармацыю пра конкурс можна знайсці на сайце нямецкага Бундэстага. Пра пачатак праграмы рэгулярна інфармуе і сайт нямецкага пасольства ў Беларусі.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ХТО Ў НАС ГАЛОЎНЫ СЯБАР?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Як мы ні лашчымся да Расіі, яна ўсё роўна няўдзячная. Мы і ваенныя вучэнні з рускімі правялі, і ў АДКБ пазасядалі, і базу самалётную ім тут дазволілі, і расійскіх журналістаў сюды прывезлі выгуляць. А ў адказ нам — фігу з макам. Пэўна, трэба нам шукаць іншых саюзнікаў. Больш лагодных і прывабных. Гэтым мы і заняліся.**



Пакуль слаба заціхае скандал з расійскім топ-менеджарам «Уралкалія» Уладзіславам Баўмгертнерам. Хоць у Беларусі яго і перавялі пад хатні арышт з СІЗА КДБ, хоць і перадалі матэрыялы крымінальнай справы ў пракуратуру Расіі, хоць і заяўлялі прэзідэнты пра «спрэчку гаспадарчых суб'ектаў», але ўсё роўна замінае ён нам у міждзяржаўных адносінах. Напрыклад, Міністэрства энергетыкі Расіі заявіла, што не плануе пераглядаць графік паставак нафты ў Беларусь у чацвёртым квартале.

Паводле кіраўніка «саюзнага» Мінэнерга Аляксандра Новака, графік на чацвёрты квартал трубаправодных паставак узгоднены ў аб'ёме 3,1 мільёна тон, і пакуль яго перагляд не плануецца.

Варта адзначыць, што першыя тры кварталы Расія пастаўляла ў Беларусь нафту з разліку беларускіх перапрацоўшчыкаў у 23 мільёны тон: у І квартале 5,75 мільёна тон, у ІІ квартале — 5,3 мільёна тон, у ІІІ квартале таксама 5,3 мільёна тон. Як толькі здарыўся скандал з Баўмгертнерам, Расія вырашыла пастаўляць нафту, зыходзячы са свайго разліку ў 18,5 мільёна тон, і скараціла пастаўку да 3,1 мільёна тон. Вось такія ў нас «саюзнікі» — з-за аднаго чалавека крыўдзяць цэлы народ!

Пакуль няма пэўнасці і на год наступны. Графік паставак нафты ў Беларусь на першы квартал наступнага года будзе фармавацца да 15 снежня, і яшчэ «ёсць час на падрыхтоўку», адзначыў Новак. Хто і да чаго будзе рыхтавацца — невядома.

Калі нас кідае бліжэйшы саюзнік, то трэба рухацца ў іншым напрамку. Напачатку тыдня Беларусь наведаў украінскі прэм'ер-міністр Мікалай Азараў. На фоне ўкраінска-расійскай вайны наконт пагаднення аб асацыяцыі Украіны і ЕС, тут ён пачуў шмат прыемнага. І пра тое, што Беларусь не збіраецца кідаць супрацоўніцтва з Украінай, і тое, што ЕС — паважаны намі выбар украінскага народа, і гэтак далей. Адпаведна, Азараў дамовіўся, што ўрады нашых краінаў створаць экспертныя групы па мадэляванні гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва пасля падпісання Кіеўам пагаднення аб асацыяцыі з ЕС.

«Мы дамовіліся аб тым, што экспертныя групы двух урадаў у бліжэйшы час пачнуць сумесны аналіз таго, як практычна будучь развівацца нашы гандлёва-эканамічныя адносіны ва ўмовах дзеяння рэжымаў Мытнага саюза і зоны свабоднага гандлю Украіны з ЕС», — сказаў Азараў.

Пры гэтым, паводле слоў украінскага прэм'ера, асноўная ўвага будзе засяроджана на тым, як не толькі захаваць, але і павялічыць аб'ёмы супрацоўніцтва, выкарыстоўваць новыя абставіны для ўсебаковага развіцця двухбаковых адносін.

«Я паставіў задачу Мінэканомразвіцця, міністэрству прамысловай палітыкі і міністэрству аграрнай палітыкі і харчавання, каб экспертныя групы ажыццявілі шматфактарнае мадэляванне развіцця сітуацый літаральна па ўсіх асноўных групах тавараў, якія могуць быць у нашым двухбаковым гандлі», — падкрэсліў Азараў.

Але самая прыемная яго навіна аказалася сапраўды салодкай. Літаральна на наступны дзень пасля ад'езду Азарава, насуперак дзеянням расійскага харчнагляду, Дзяржстандарт Беларусі заявіў, што не выявіў парушэнняў у кандытарскіх вырабах «Roshen» па паказчыках бяспекі. Інспекцыі Дзяржстандарту ў ліпені-жніўні 2013 года правялі маніторынгі і праверкі выканання патрабаванняў заканадаўства і тэхнічных нарматыўных прававых актаў пры рэалізацыі 295 найменняў кандытарскіх вырабаў, выраблены на фабрыках кандытарскай карпарацыі «Roshen». «У выніку выпрабаванняў, праведзеных у акрэдытаваных лабараторыях, па паказчыках бяспекі (наяўнасць таксічных элементаў, пестыцыдаў, мікатаксінаў, утрыманне свінцу, кадмію, ртуці, мыш'яку; мікрабіялагічныя паказчыкі), парушэнняў не было выяўлена», — заявіў беларускі Дзяржстандарт.

Гэткая маральна-матэрыяльная падтрымка Украіны, відавочна, не засталася па-за ўвагай еўрапейскіх саюзнікаў нашай паўднёвай суседкі. Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі паведаміў на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы Facebook, што ў цяперашні час рыхтуецца рашэнне аб скарачэнні спісу беларускіх грамадзян, якім забаронены ўезд у краіны Еўрапейскага саюза.

Паводле інфармацыі Віталя Рымашэўскага, у першую чаргу са спісу могуць быць выключаны так званыя «беларускія алігархі» (Уладзімір Пефціеў, Юрый Чыж і іншыя), а ў другую — асобы, якія не займаюць тыя пасады, на якіх яны знаходзіліся ў момант складання спісу. Як сцвярджае Рымашэўскі, пытанне ў цяперашні час разглядаецца вышэйшым кіраўніцтвам Еўрапейскай Камісіі, і рашэнне пра скарачэнне спіса можа быць прынята на працягу гэтага месяца.

Разгляд пытання, як лічыць Рымашэўскі, звязаны з актыўнай дзейнасцю беларускіх бізнэсмэнаў у еўрапейскіх судах, дзе яны спрабуюць абскарджваць рашэнне аб уключэнні іх у спіс, а таксама ў палітычных колах. Дадатковым фактарам, лічыць палітык, можа паслужыць нядаўняя серыя артыкулаў пра іх у беларускіх незалежных СМІ, дзе гэтыя людзі паказаны людзьмі з гісторыяй поспеху ў развіцці бізнэсу, і дзе ні слова гаворыцца аб метадах іх працы і цесных сувязях з беларускімі ўладамі. На думку Рымашэўскага, неабходна прыцягнуць увагу беларускай грамадскасці да таго, што адбываецца, бо звужэнне спісу неўязных у ЕС не можа быць апраўдана ў той час, калі ў турмах Беларусі ўтрымліваюцца палітвязні.

Тут Рымашэўскі яўна з'еў нешта не тое, і гэта відавочна была не цукерка «Roshen». Па-першае, Савет па замежных справах ЕС і не хавае таго, што гэты спіс рэгулярна пераглядаецца «з улікам развіцця сітуацыі». Па-другое, ужо былі выпадкі, калі ў гэтым спісе заставаліся, напрыклад, памерлыя беларускія чыноўнікі. Дык што, забараняць ім уезд у ЕС нават пасмяротна? А тое, што серыя артыкулаў у беларускіх СМІ можа паўплываць на рашэнне ЕС — гэта ўвогуле нейкая канспіралогія.

Можа, Украіна нам дапаможа сябраваць з ЕС, а ЕС стварае больш спрыяльную глебу для такога сяброўства?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ

Алесь Бяляцкі атрымаў прэмію імя Вацлава Гавэла. Ён апярэдзіў такіх намінантаў на прэмію, як аўтарытэтныя праваабарончыя арганізацыі: Асацыяцыю маладых юрыстаў (Грузія) і Rights Defence Network (Кітай).

Жонка праваабаронцы Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук на цырымоніі ўручэння прэміі адзначыла, што Вацлаў Гавэл з'яўляўся духоўным настаўнікам Алеся. Незадоўга да сваёй смерці Гавэл накіраваў Алесю ў турму ліст падтрымкі. Алесь піша ў паштоўцы, што для яго гэты ліст стаў промнем надзеі і салідарнасці.

Бяляцкі, які адбывае пакаранне ў бабруйскай калоніі №2, не спыняе і літаратурнай дзейнасці. Паводле Наталлі Пінчук, яе муж з газетаў даведаўся пра смерць свайго блізкага сябра і паплечніка Віктара Івашкевіча.

Па словах жонкі, для яго гэта навіна была ашаламляльнай. Алесю яшчэ цяжка асэнсаваць тое, што адбылося, настолькі моцнай была для яго гэта трагічная навіна. Бяляцкі сказаў, што хоча сабрацца з думкамі і напісаць успаміны пра Віктара Івашкевіча, з якім ён знаёмы з 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі ў Беларусі пачынаўся рух нацыянальнага Адраджэння.

### СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ

Беларуская рускамоўная пісьменніца Святлана Алексіевіч нарабіла шораху напярэдадні ўручэння Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Зусім нечакана па версіі букмекераў яна ўвайшла ў тройку фаварытаў. Букмекерская кантора «Ladbrokes», якая ў 2011 і 2012 гадах слушна прадказала лаўрэатаў прэміі па літаратуры, прымала стаўкі на Алексіевіч у суадносінах 4 да 6.

Справа ў тым, што да пачатку «Нобелеўскага тыдня» Алексіевіч нават не была заўважана ў ліку найбольш верагодных кандыдатаў на прэмію. А потым нечакана патрапіла ў «шорт-ліст». Некаторыя нават загаварылі пра «злію» інфармацыі з Нобелеўскага камітэта.

Увагу да беларускай пісьменніцы мог прыцягнуць выхад яе кнігі «Час сэканд-хэнд», якая завяршае серыю «Галасы Утопіі». У жніўні, калі кніга выйшла ў шведскім перакладзе, мясцовыя газеты абвясцілі Алексіевіч прэтэндэнткай на Нобелеўскую прэмію; высокія ацэнкі працы далі і рэцэнзенты з іншых краін. У пачатку верасня «Час сэканд-хэнд» выйшаў на рускай мове.

Пісьменніцы 65 гадоў. Славу ёй прынесла дэбютная кніга «У вайны не жаночае аблічча» (1983). Далей выйшлі кнігі «Апошнія сведкі» (1985) пра дзіцячы погляд на Вялікую Айчынную, «Цынкавыя хлопчыкі» пра вайну ў Афганістане, «Зачараваныя смерцю», зборнік апавяданняў самагубцаў, «Чарнобыльская малітва» аб наступствах аварыі на АЭС.

Паводле дадзеных СМІ, Алексіевіч з 2002 года намінуецца на Нобелеўскую прэмію. Можа, наступным годам яна і стане Нобелеўскім лаўрэатам?

### ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА



Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Беларусі Лідзія Ярмошына зараз назірае за прэзідэнцкімі выбарамі ў Азербайджане. З пачаткам выбараў яна адзначыла высокі ўзровень актыўнасці выбаршчыкаў у дзень галасавання на прэзідэнцкіх выбарах у Азербайджане.

Паводле звестак карэспандэнта агенцтва «Інтэрфакс-Азербайджан», на сустрэчы са сваім азербайджанскім калегам Мазахірам Панахавым Ярмошына выказала надзею, што выбары прэзідэнта Азербайджана завершацца на самым высокім узроўні.

«Высокі ўзровень» выбараў у Азербайджане адзначыўся выключнай падзеяй. За дзень да прэзідэнцкіх выбараў у сацыяльных сетках з'явілася інфармацыя аб выніках галасавання. Вынікі выбараў — з дакладнасцю да сотай долі працэнта — былі пазначаны ў спецыяльных праграмах для iOS і Android. Гэтыя праграмы былі распрацаваны кампаніяй «Happy Baku» (як сцвярджаецца, да іх распрацоўкі мае дачыненне ЦВК рэспублікі). У праграмах, актываваных 8 кастрычніка, была інфармацыя, што за дзейнага прэзідэнта Ільхама Аліева прагаласавалі 72,76% выбаршчыкаў. За кандыдата ад аб'яднанай апазіцыі Джаміля Гасанлы — 7,4%.

На гэта звярнулі ўвагу журналісты азербайджанскага інтэрнэт-рэсурсу «Meydan TV». Яны зрабілі скрыншоты і апублікавалі іх у Facebook. Пасля гэтага выканаўчы дырэктар кампаніі «Happy Baku» Вуса Ісаеў звязаўся з менеджарам «Meydan TV» і спрабаваў дамовіцца аб выдаленні скрыншоту, аднак атрымаў адмову.

Здавалася б, пры чым тут Лідзія Ярмошына?

СУАЙЧЫННІКІ

# ІВАН ШЭГА. У ПОШУКАХ ПРАЎДЫ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Слонімскага доктара Івана Шэгу я ведаю даўно. З ім немагчыма было не пазнаёміцца. Ці то ў раённай паліклініцы, ці то ў бальніцы, ці на розных сустрэчах з выбаршчыкамі, ці проста так на вуліцы ў Слоніме. Прыгожы, інтэлігентны, адукаваны, нястомны ва ўсіх добрых і сур'ёзных справах, ён кідаецца ў вочы адразу. З ім цікава размаўляць, ён заўсёды дапаможа. Такімі людзьмі мы павінны ганарыцца.**



## Штрых першы: маленства і юнацтва

Нарадзіўся Іван Шэга ў вёсцы Валеўка на Навагрудчыне 25 сакавіка 1953 года. Яго бацька Іван Іванавіч Шэга быў родам з вёскі Малюшычы Карэліцкага раёна. У 18-гадовым узросце ён пайшоў на фронт, а пасля вайны сем гадоў служыў у акупацыйных войсках у Германіі. Пасля дэмабілізацыі быў накіраваны на працу ў Валеўку, дзе і пазнаёміўся з будучай маці, тады Клаўдзіяй Зайка. Вынікам шлюбу бацькоў стала нараджэнне Івана, а праз 6 гадоў і сястры Наталлі.

Ваня Шэга вучыўся добра, навука давалася яму лёгка. Ды і з настаўнікамі Івану Шэгу вельмі пашанцавала. Ён і сёння часта ўспамінае іх з асаблівай цеплынёй. Беларускасці Ваня вучыўся ў такіх людзей, як настаўнік беларускай мовы і літаратуры Уладзімір Урбановіч, завуч школы Міхаіл Петрыкевіч, выхаванасці — у класнага кіраўніка Кацярыны Вінаград, ды і ўсе астатнія настаўнікі прымалі ўдзел у фарміраванні з вучняў сапраўдных людзей. У Валеўскай школе тады быў арганізаваны краязнаўчы музей, і вучні прымалі непасрэдны ўдзел у яго працы, праводзілі экскурсіі па музеі падчас канікулаў. Акрамя таго, каля школы вучні і настаўнікі стварылі вялікі паркдэндрарый з экзатычнымі для нашых мясцін раслінамі, за якімі школьнікі пастаянна наглядалі. У Валеўскую школу прыязджалі і выступалі ў свой час перад вучнямі вельмі многія вядомыя беларускія пісьменнікі і паэты.

Сярэднюю школу Іван Шэга закончыў з адной чацвёркай у атэстаце. Дарэчы, галоўны ўрач Слонімскай бальніцы Юрый Пяцельскі, з якім працаваў Іван Шэга і які выганяў яго з працы, таксама закончыў Валеўскую школу, але значна пазней. Тое, што Іван Шэга падаў дакументы на паступленне ў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, ён лічыць умяшаннем у ягоны лёс Бога. Шэга дакументы рыхтаваў у політэхнічны інстытут, але, прыехаўшы ў Мінск, у апошні момант памяняў рашэнне, нават сам не ведаў чаму, але аднёс дакументы ў медыцынскі інстытут.

Падчас навучання на сельгасработах пазнаёміўся з будучай жонкай, якая вучылася на педыятрычным факультэце. У 1974 годзе яны ажаніліся, а ў 1975-м у іх нарадзіўся сын. У 1976 годзе Іван па размеркаванні быў накіраваны на працу ў Капыль хірургам, а жонка — педыятрам. Умовы працы для маладых спецыялістаў тады мала адрозніваліся ад цяперашніх: жылля не давалі, таму жылі на прыватнай кватэры, зарплаты былі малыя, таму без дапамогі бацькоў было б зусім цяжка. Адпрацаваўшы неабходны час, у 1980 годзе Шэгі пераехалі на радзіму жонкі — у Слонім.

## Штрых другі: шлях у медыцыну

У Слоніме ў 1984 годзе Іван Шэга з дапамогай жончыных бацькоў пабудаваў сабе дом. Працаваў у траўматалагічным аддзяленні, шмат аперыраваў, праходзіў стажыроўкі ў Мінску, Ленінградзе, Маскве, Запарожжы. Авалодаў методыкай мануальнай тэрапіі, што тады было вельмі модна. У Слонімскай паліклініцы па ягонай ініцыятыве быў адкрыты кабінет мануальнай тэрапіі, пазней на базе аздараўленчага комплексу слонімскага кардонна-папяровага завода «Альбярцін» ім было арганізавана малое прадпрыемства «Фенікс», якое займалася аказаннем дапамогі хворым з астэахандрозам. На жаль, праз два гады, па прычыне рэканструкцыі тэрыторыі завода, прадпрыемства «Фенікс» было закрытае.

Але доктар Шэга стараўся працаваць сур'ёзна, павышаць свой медыцынскі вопыт, нягледзячы на ўсе праблемы і кур'ёзы. Ён у 1996 годзе стаў спецыялістам вышэйшай катэгорыі. Хворыя стараліся трапіць да яго на прыём. Доктара ў Слоніме сталі ведаць амаль усе.

## Штрых трэці: палітычны

У 1994 годзе Слонім наведалі тагачасныя дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі разам з Зянонам Пазьняком. На сустрэчу з імі прыйшлі каля тысячы чалавек, зала не магла ўсіх умясціць. Пасля выступлення Зянона Пазьняка Іван Шэга адразу напісаў заяву на ўступленне ў БНФ. З таго часу, акрамя сваёй прафесійнай дзейнасці, стаў пацыху займацца грамадска-палітычнай. У выніку Іван Іванавіч перамог на мясцовых выбарах 2003 года, стаў дэпутатам Слонімскага раённага Савета.

Дэпутат Іван Шэга дабіваўся адкрыцця харчовай крамы на тэрыторыі свайго выбарчага ўчастка, бо людзі прасілі. Збіраў подпісы, пісаў скаргі, сустракаўся з людзьмі, з кіраўніцтвам райвыканкама і такі дамогся свайго. Старшыня райвыканкама Мечыслаў Касцюк нават даслаў яму запрашэнне на адкрыццё крамы! «Я вельмі стараўся працаваць у адпаведнасці з законам аб статусе дэпутата, праводзіў прыём выбаршчыкаў, ладзіў сустрэчы з імі, прычым рабіў гэта нефармальна. На фоне астатніх дэпутатаў выглядаў няблага, мяне мае выбаршчыкі ведалі і звярталіся пастаянна па дапамогу. Уладам мая дэпутацкая актыўнасць не падабалася. Пачаліся першыя праблемы на працы ў выглядзе прымусовага прызначэння мне дзяжурстваў на дні запланаваных мерапрыемстваў, адмоваў у прадстаўленні адпачынкаў і г.д.», — успамінае Іван Іванавіч.

На выбарах у Палату прадстаўнікоў Івана Шэгу не зарэгістравалі кандыдатам, бо баяліся, што за яго прагаласуе шмат людзей. Выбаршчыкаў прымушалі адклікаць сабраныя за яго подпісы. На чарговых мясцовых выбарах зноў не зарэгістравалі з-за дэкларацыі аб даходах. У даведцы аб даходах з бальніцы «забыліся» ўказаць 20 тысяч беларускіх рублёў прэміі. У 2007 годзе Іван Шэга арганізаваў кампанію за добраўпарадкаванне свайго мікрараёна, пасля чаго заасфальтавалі некалькі вуліц і завулкаў горада.

Выбары 2008 года ў парламент Іван Шэга і тысячы слонімцаў лічаць пераможнымі для доктара. Нягледзячы на ўсе падтасоўкі, ён набраў амаль 30% галасоў па афіцыйных звестках. «Што галасы скралі — без сумнення, бо маю доказы, — распавядае Іван Іванавіч. — Пасля выбараў на мяне наехаў галоўны ўрач-зямляк Юрый Пяцельскі, які парэкамендаваў мне напісаць заяву аб звальненні, аднак я падзякаваў і прапанаваў, што разбяруся ў гэтай праблеме сам. У адказ ён зволіў з працы старшыню майго выбарчага штаба Івана Бедку».

З гэтага часу Іван Шэга на працы быў пад пастаянным прэсінгам. Але па-сур'ёзнаму зачапіць не маглі, хаця крыві папсавалі. Маючы вышэйшую катэгорыю і з'яўляючыся аперыруючым хірургам, ён напісаў заяву аб пераходзе з паліклінікі ў траўматалагічнае аддзяленне Слонімскай бальніцы, бо там з'явілася вакансія. Галоўны ўрач Пяцельскі, канешне, адмовіў, а сам даў аб'яву ў СМІ, што яму патрэбен доктар для працы ў траўматалагічным аддзяленні.

Апошнім часам Шэга ўзначальвае Слонімскую арганізацыю партыі БНФ. «На парламенцкіх выбарах 2012 года наша партыя прытрымлівалася тактыкі, прапанаванай Слонімскай арганізацыяй партыі БНФ. Лічу, што нам удалося пераламаць сітуацыю, упершыню ўладам прыйшлося гуляць па нашых правілах, шкада толькі, што не ўсе дэмакраты гэта зразумелі. Я ўдзельнічаў у гэтай кампаніі ў якасці кандыдата, але па рашэнні партыі зняў сваю кандыдатуру», — разважае Іван Шэга.

## Штрых чацвёрты: медыцынскі

У тым жа 2012 годзе Іван Шэга зарэгістраваў недзяржаўную інфармацыйна-кансультатыўную ўстанову «Шэгамедкансульт». Перад гэтым мясцовыя актывісты ў Слоніме правялі добрыя грамадзянскія кампаніі па паляпшэнні медыцынскага абслугоўвання насельніцтва. Была праведзена канферэнцыя па гэтым пытанні з удзелам медыкаў з Гродна і Мінска, выпрацаваны канкрэтныя прапановы, якія былі накіраваны ў Слонімскі райвыканкам і адміністрацыю Слонімскай ЦРБ. Вынікам яе з'явілася набыццё кампутарнага тамографа, адмена незаконнай аплаты хворымі рэнтгенаўскай плёнкі, рэфармаванне працы траўматалагічнага кабінета паліклінікі. Акрамя таго, Іван Шэга прааналізаваў стан і выпрацаваў прапановы па рэфармаванні сістэмы аховы здароўя Беларусі.

Працуючы ў Слонімскай ЦРБ, Іван Шэга з пісьмовымі зваротамі пастаянна звяртаўся да галоўнага ўрача Пяцельскага наконт нізкай тэмпературы ў перавязачнай мінулай зімой, наконт няправільна ўсталяванай бесценявой лямпы, наконт неабходнасці папаўнення інструментарыя для амбулаторных аперацый і г.д. І, ведаючы яго настырнасць, адміністрацыя знаходзіла магчымасць тое-сёе зрабіць.

Калі заканчваўся працоўны кантракт, Іван Шэга раптам атрымаў ліст ад галоўнага ўрача Пяцельскага з прапановай працягнуць кантракт: «Адміністрацыя УА «Слонімская ЦРБ паведамляе, што з Вамі будзе працягнуты кантракт тэрмінам на адзін год з 28 чэрвеня 2013 года па 27 чэрвеня 2014 года».

Вядома ж, спецыялістаў у Слонімскай ЦРБ не хапае. Напрыклад, каб патрапіць да неўрапатолага, трэба чакаць месяц, да ўролага — каля двух месяцаў, тое самае і з траўматолагамі. Не хапае ў Слоніме траўматолагаў, бо нядаўна два добрых спецыялісты пераехалі ў Касцюковічы, адзін — у Мінск, уролаг — адзін на ўвесь раён, і то ён даўно пенсіянер. Маладыя спецыялісты прыедуць, адпрацуюць два гады і пакідаюць горад.

І раптам 21 мая Іван Шэга атрымаў ад таго ж Пяцельскага новае пісьмо, дзе галоўны ўрач папярэджвае: «Адміністрацыя Слонімскай ЦРБ паведамляе, што 27 чэрвеня Вы будзеце звольнены ў сувязі з заканчэннем тэрміну кантракта, п. 2 арт. 35 Працоўнага кодэксу Рэспублікі Беларусь».

## Штрых пяты: жыццё працягваецца

Даведаўшыся пра гэта, жыхары Слоніма пачалі збор подпісаў пад калектыўным зваротам у Слонімскі райвыканкам, Гродзенскі аблвыканкам, Міністэрства аховы РБ, адміністрацыю прэзідэнта, у якім прасілі даць ім магчымасць лячыцца ў вопытнага доктара, якому яны давяраюць і якога ведаюць шмат гадоў. У абарону доктара Івана Шэгі было сабрана звыш 1500 подпісаў і адпраўлена па адрасах.

Кіраўнікі слонімскіх суполак партый «Справядлівы свет» (Сяргей Бузун), БНФ (Віктар Марчык), БХД (Іван Бедка), АГП (Сяргей Бялько) і Алесь Масюк ад «Руху за Свабоду» звярнуліся да старшыні Слонімскага райвыканкама Іосіфа Паўлюкевіча з просьбай падтрымаць доктара. У лісце партыйцы напісалі, што «доктар Слонімскай цэнтральнай раённай бальніцы Іван Іванавіч Шэга 30 гадоў адпрацаваў у бальніцы. Доктар вопытны, спецыяліст вышэйшай катэгорыі, якога ведаюць як добрага спецыяліста ўсе жыхары Слонімшчыны і нават суседніх раёнаў, ён поўны сіл і энергіі працаваць і надалей доктарам у Слоніме».

Але спадар Паўлюкевіч адказаў: «Слонімскі раённы выканаўчы камітэт паведамляе, што з Шэгам Іванам Іванавічам спынены працоўныя адносіны ў адпаведнасці з дзеючым працоўным заканадаўствам».

Івана Шэгу звольнілі з працы. Следам за ім звольніўся са Слонімскай ЦРБ і траўматолаг Юрый Халупка. Слонім застаўся без вопытных дактароў. Але гэта галоўнага ўрача Пяцельскага не хвалюе: ён па-ранейшаму дае аб'явы ў «Медыцынскі веснік» і іншыя выданні, што ў Слонім запрашаюцца на працу дактары амаль усіх спецыяльнасцяў. Толькі ніхто сюды не едзе. А Іван Шэга бясплатна лечыць хворых. Бывае па 5–6 чалавек у дзень, бо людзі просяцца да яго, яму давяраюць. А яшчэ доктар і палітык Іван Шэга ў Слоніме для сваёй уласнай установы «Шэгамедкансульт» шукае памяшканне ў цэнтры горада, каб там бясплатна даваць кансультацыі. Ён у нястомных пошуках праўды — жыццё працягваецца.

ДЭВАЛЬВАЦЫЯ

# ПРА ШТО ПАПЯРЭДЗІЎ ЛУКАШЭНКА?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Прэзідэнт-эканаміст, які рыхтаваў напачатку перабудовы знакамітую праграму «500 дзён», зноў размаўляе пра дэвальвацыю. Гэтыя выказванні можна назваць сімптаматычнымі: з аднаго боку, спроба зарання «перакласці адказнасць» з сябе на нейкага іншага. З другога — каб потым сказаць: «Я вас папярэджваў».**

Падчас «Дажынак–2013» 28 верасня Лукашэнка заявіў, што пытанне пра дэвальвацыю нацыянальнай валюты паўстане толькі "дзякуючы" дзеяннем народа. «Калі вы будзеце бегаць з раніцы да вечара па абменных пунктах і скупляць валюту, калі суб'екты гаспадарання і банкі будуць спаць і бачыць, што пройдзе дэвальвацыя, нехта на гэтым выйграе, будуць спараджацца чаканні, а нашы нягоднікі,свядомыя, якія плявузгаюць вуснамі ва ўсіх СМІ, народ будуць падганяць, а вы будзеце іх слухаць і зноў бегчы ў абменнікі — Бог вам у дарогу, значыць, вы самі прывядзяце да таго, што пасля нацыянальную валюту», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Здавалася б, коратка і ясна. Але чамусьці Аляксандр Рыгоравіч вярнуўся да гэтай тэмы на тыдні. Падчас наведвання БелАЗу ён адзначыў: «Вы крычыце: цэны вельмі высокія. Я пачынаю прэсаваць: давайце зніжаць. Гэта значыць, трымаем цэны на нізкім узроўні, а зарплату раздулі. Наступствы вы добра ведаеце. Але мяне што больш за ўсё хвалюе? З'явіўся ў вас лішні беларускі рубель, куды вы пабеглі? У абменнікі скупляць валюту. І потым крычаць: а будзе дэвальвацыя ці не будзе? Калі будзе дэвальвацыя — вы яе зробіце».

Здавалася б, вельмі пісьменна разважае. Не толькі нястача валюты, але і недавер да беларускага рубля выклікалі панічныя настроі насельніцтва ў 2011 годзе. А панічныя настроі значна пагоршылі сітуацыю на валютным рынку і прывялі да гэтай самай дэвальвацыі. З гэтым згодныя ўсе эканамісты.

Але словы АГ варта ўспрымаць як папярэджанне. У 2010 годзе ён заяўляў, што папярэджваў народ аб дэвальвацыі 2009 года і абяцаўся папярэджваць далей.

Журналісты потым разабраліся, як гучала папярэджанне аб дэвальвацыі 2009 года. 18 снежня 2008 года кіраўнік Беларусі казаў: да канца гэтага года афіцыйны курс долара да рубля застанецца на ўзроўні 2 200 рублёў. «Усё, нельга больш. Мы народу абяцалі. І я сказаў старшыні Нацбанка: май на ўвазе, не дай Бог мае слова будзе парушана. Прыйдзе новы год: 5% — гэта нішто. Вось вазьміце 5% з 2 200. Што, гэта велізарная сума для нашых людзей? Але мы на гэта не ідзем, каб там абвальць чагосьці. І няма неабходнасці зараз чагосьці абвальваць», — казаў правадыр.

Гэта, канешне, вельмі своеасаблівае папярэджанне. 2 студзеня 2009 года беларускі рубель быў дэвальваваны не на 5, а на 20%. І ў гэтым кантэксце цяперашнія заявы Лукашэнкі вельмі насцярожваюць. Хто яго ведае, раптам ён зноў намякае на «непапулярнае рашэнне» і загадзя шукае вінаватых?

Між тым, Нацбанк з лета праводзіць кантралюемае падзенне курсу нацыянальнай валюты. Курс рубля да долара падае з чэрвеня на 100 рублёў штомесяц. Паглядзіце самі: 1 чэрвеня афіцыйны курс долара складаў 8 690 рублёў, 1 ліпеня — 8 790, 1 жніўня — 8 880 рублёў (2 жніўня — 8 890 рублёў), 1 верасня — 8 990 рублёў. 1 кастрычніка курс быў 9 090 рублёў за долар.

Калі паслабленне рубля будзе працягвацца такімі тэмпамі, да канца года курс долара складзе 9 300 — 9 400 рублёў за долар. Гэта прыкладна сугучна з разлікамі незалежных экспертаў і эканамістаў. Па меркаванні былога старшыні Нацбанка Станіслава Багданкевіча долар павінен каштаваць 9 500 — 10 000 рублёў. Лічбу ў 9 500 прыводзяць і іншыя эканамісты. Дарэчы, на 2014 год і беларускія ўлады прагназуюць сярэднегадавы курс долара ў 9 500 рублёў.

Але тут ёсць яшчэ адна фішка, пра якую неяк усе забыліся. Гэта размовы старшыні Нацбанка спадарыні Ермаковай пра магчымую ў 2014 годзе дэнамінацыю. Для правядзення такога кроку трэба не толькі разумная грашова-крэдытная і валютная палітыка, але і ўтаймаванне інфляцыі. Перад кіраўніцтвам пастаўленая задача забяспечыць інфляцыю на ўзроўні 12% за 2013 год.

І, здаецца, гэтая задача будзе выкананая. Па апошніх дадзеных Белстата, на 1 кастрычніка інфляцыя склала 10%. З улікам таго, што напачатку восені ўжо падаражэла ўсё магчымае, укласціся ў прагнозныя 12% будзе лягчэй лёгкага. Проста даражэць ужо няма чаму.

| СТРАНА | ГОД | ВЕЛИЧИНА*(%) |
|---|---|---|
| Белоруссия** | 2011 | 54,4 |
| Аргентина | 2002 | 54 |
| Эфиопия | 1992 | 54 |
| Россия | 1998 | 38 |
| Белоруссия | 1999 | 37 |
| Индонезия | 1998 | 37 |
| Мексика | 1995 | 36 |
| Респ. Корея | 1997 | 34 |
| Бразилия | 1999 | 33 |
| Уругвай | 2002 | 29 |
| Эквадор | 1999 | 29 |

* Девальвация к корзине валют; ** данные с 23.05.2011 по 24.05.2011.

Самыя буйныя сусветныя дэвальвацыі з 1990 года. Паводле The World Bank. Крыніца:liveinternet.ru

Самы просты варыянт дэнамінацыі — гэта апусціць рубель да 10 000 за долар. Пры ўзятай пад кантроль інфляцыі можна будзе выкрасліць не толькі тры, але і чатыры нулі, прыраўняўшы кошт беларускага рубля да долара ў прапорцыі 1:1. І ўсім будзе шчасце, — такі варыянт дэнамінацыі прадугледжваў эканаміст Леанід Заіка яшчэ ўлетку гэтага года.

Магчыма, пра «абвал» з 9300 да 10000 рублёў за долар і папярэджвае Аляксандр Лукашэнка.

Ёсць і яшчэ адзін прагматычна-псіхалагічны момант «курсу 10 000 за долар» — з дэнамінацыяй альбо без яе. Усе мы ведаем, як Аляксандр Рыгоравіч клапоціцца пра хакей. Усе мы ведаем, што ў траўні 2014 года ў нас пройдзе Чэмпіянат свету па гэтым відзе спорту. Зразумела, мы чакаем сюды заўзятараў і турыстаў, а асабліва чакаем тых валютных паступленняў, якія яны з сабою прывязуць. І для гэтых «гаманцоў» было б зручна, каб курс нацыянальнай валюты да сусветнай быў не 9 870, і не 10 230, а складаў бы роўную лічбу. З дэнамінацыяй альбо без дэнамінацыі — усё роўна.

У прынцыпе, штомесячным паслабленнем курса рубля на сто плюс-мінус дваццаць-пяцьдзясят рублёў Нацбанк можа справіцца з гэтай задачай і без абвальнай дэвальвацыі. А калі не справіцца, дык заўсёды ёсць папярэджанне кіраўніка дзяржавы.

ВЫТВОРЧАСЦЬ

# МІНІСТРАЎ — НА НАРЫ

Сяргей ПУЛЬША

**Маштабная кампанія па разгрузцы беларускіх складоў ад самага пачатку з'яўлялася невыканальнай. Гэта ўсё роўна, што прымусіць падняць сельскую гаспадарку. За правал невыканальнай місіі, падаецца, адкажа ўрад.**

На нарадзе па бягучых пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця Аляксандр Лукашэнка нечакана ўзгадаў пра свае даручэнні па разгрузцы складскіх запасаў. Яшчэ напачатку лета былі прызначаны адказныя за гэтую справу — ад чыноўнікаў Мінгарвыканкама да міністра замежных спраў. І разгрузка пайшла: ад лета складскія запасы павольна, але няўмольна зніжаліся.

Па дадзеных Белстата, па стане на 1 верасня 2013 года на складах прамысловых прадпрыемстваў Беларусі назапасілася гатовай прадукцыі на 28 трыльёнаў 435,1 мільярда рублёў. Гэта вялізная сума і вялізныя аб'ёмы — 71,4% сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці. Але ж, як адзначае той жа Белстат, колькасць запасаў зменшылася за жнівень на 3%.

Але «працэнты» Лукашэнку не задаволілі. Здаецца, ён усё ж пачуў недзяржаўных эканамістаў, якія казалі: варта не проста «разгружаць» склады, але і атрымліваць грошы за гэтую прадукцыю. Атрымаць грошы, як высветлілася, — вялікая праблема.

Пра гэтыя нібыта зробленыя грошы жорстка ўзгадаў Лукашэнка. «Я папрасіў бы вас, Міхаіл Уладзіміравіч (Мясніковіч), а яшчэ больш — міністраў і кіраўнікоў прадпрыемстваў, мецць на ўвазе. Уся гэта хлусня па разгрузцы складоў, як гэта выглядае сёння ў нас — вывезлі ў Літву, Расію, яшчэ кудысьці, грошай не атрымалі, а склалі там у дылераў на складах трактары, аўтамабілі... Скажу публічна, гэта абернецца камусьці камерай», — заявіў Лукашэнка.

«Каму вы акуляры ўціраеце, я не разумею. У мяне дастаткова людзей, якія прааналізуюць і заўтра дакладуць. Аднаго Рудага (памочніка прэзідэнта) хопіць, які праедзе па прадпрыемствах, запатрабуе як памочнік прэзідэнта справаздачы, праверыць і дакладзе мне, што адбываецца», — сказаў Лукашэнка.

«Галоўнае — гэта грошы ў краіну, а не тавар за мяжу выкінулі і паставілі там недзе пад плотам. Куды хочаце вязіце, але грошы павінны ў краіну паступіць. І раю вам звярнуць увагу на якасць працы нашых прадпрыемстваў», — адзначыў Лукашэнка.

Рудаму не трэба нікуды ездзіць. Па тых жа дадзеных Белстата, у студзені-жніўні 2013 года сальда знешняга гандлю таварамі апынулася адмоўным і склала 2 мільярда 781,1 мільёна долараў супраць прафіцыту ў памеры 1 мільярд 804,2 мільёна ў аналагічным перыядзе мінулага года. Атрымліваецца, што наш экспартны тавар раптам стаў нікому не патрэбны, у той час, які імпартуем мы ўсё больш. Пры захаванні існуючай дынамікі, да канца бягучага года мінусавае сальда можа перавысіць 5 мільярдаў долараў.

Гэтыя лічбы не былі б такімі катастрафічнымі, калі б з намі за наш тавар расплачваліся. Аб гэтым урад папярэджвалі: меры па разгрузцы складоў у перспектыве павінны прывесці да росту дэбіторскай запазычанасці прадпрыемстваў, бо ім прыйдзецца адпраўляць больш прадукцыі з адтэрміноўкай плацяжу. Вынік: знешняя дэбіторская запазычанасць прадпрыемстваў Беларусі на 1 жніўня склала 2,88 трыльёна рублёў. За сем месяцаў яна вырасла на 41,4%.

Рыторыку Лукашэнкі пра адстаўкі і камеры мы чуем не ў першы раз. У маі ў разгар "складскога крызісу" Аляксандр Лукашэнка абяцаўся адправіць урад у адстаўку, калі склады не будуць разгружаныя. 12 чэрвеня ён вызначыў два этапы разгрузкі: лета і трэці квартал года. Трэці квартал заканчваецца, а трактары і аўтамабілі — усё там жа. А да 1 студзеня 2014 года мы павінны былі выйсці на «нармальныя нарматывы» са складскім запасам. І амаль на сто працэнтаў — не выйдзем. Для гэтага патрэбны цуд, а чараўнікі засталіся ў дзіцячых казках.

Адстаўку ўраду прадказваюць ужо даўно. Але тое, што яна адбудзецца бліжэйшым часам — гэта ў галіне фантастыкі. Проста таму, што зараз — не вельмі спрыяльны час дляператасоўвання Саўміну. Ад таго, што выставіш за дзверы ўрад зараз, нічога не зменіцца. Прэзідэнту трэба пачакаць значна больш балючых узрушэнняў у эканоміцы краіны.

Адстаўку ўрада можна прагназаваць адразу за дэвальвацыяй беларускага рубля. Тады на ўрад Мясніковіча можна будзе вешаць усіх сабакаў: і неразгружаныя склады, і дэвальвацыю, і так і не дасягнуты (ад самага пачатку ніхто не верыў, што ён будзе дасягнуты) ВУП памерам у 8,5%, правал перамоваў па нафце з Расіяй, якая наўрад ці пагодзіцца падпісаць гадавы баланс, і гэтак далей.

Новы ўрад апынецца ў шакаладзе. Рашэнне пра дэвальвацыю прымусіць патаннець беларускую прадукцыю да той ступені, што праблемаў з разгрузкай складоў не будзе. Валютныя паступленні ў краіну будуць дастаткова значныя за кошт Чэмпіянату свету па хакеі. Негатыўныя наступствы дэвальвацыі для насельніцтва будуць заторкнутыя чарговымі сацыяльнымі падачкамі, якія ў перадвыбарчы год адбудуцца абавязкова-традыцыйна. І ў чарговы раз перад чарговым Народным сходам Аляксандр Лукашэнка будзе казаць, што «мы годна выстаялі ў гэты няпросты час эканамічнага крызісу». Хаця кожнаму зразумела, што гэты крызіс мы стварылі ледзьве не сваімі рукамі.

Так што час для адстаўкі ўрада яшчэ не наспеў. Міністрам пакуль можна расслабіцца і атрымліваць задавальненне. А як жа словы Лукашэнкі пра камеры? Ды не будзе ніякіх камер. Пакрычыць і супакоіцца.

## 20 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.25** Меладрама «Несусветная мітусня» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**12.10** Зона Х. Вынікі тыдня.
**12.45** Каробка перадач.
**13.20** Медычныя таямніцы.
**13.55** Заўтра - гэта мы!
**14.25** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Клуб рэдактараў.
**16.15** Камедыя «Хто падставіў труса Роджара» (ЗША).
**17.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Прамая трансляцыя.
**20.35** БеларусьLIFE.
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.35** Меладрама «Чалавек, які кахае» (Італія).
**00.25** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.25** «Праўда дзесьці недалёка».
**13.45** Камедыя «Вакацыі строга рэжыму».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Куб».
**17.35** «Эстрадны кактэйль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера сезону. «Ледавіковы перыяд».
**00.05** Трылер «На грані».

### СТВ

**06.00** «NEXT». Серыял.
**07.40** Фільм «Бессань». ЗША-Канада, 2002 г.
**09.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Клімавічы.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Вялікая змена». СССР,1972 г. 2-я серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Магілёў.
**17.00** «Аўтапанарама».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**21.15** Фільм «Герцагіня». Вялікабрытанія -Італія-Францыя-ЗША, 2008г.
**23.20** Фільм «Апошні ўрок». Францыя-Бельгія, 2008г.
**00.50** «Якія людзі».

### 2 Беларусь

**07.55** Мультфільмы.
**08.35** Фільм-казка «Восеньскі падарунак фей» (СССР).
**09.50** Пазакласная гадзіна.
**10.10** Тэлебарометр.
**10.15** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**10.45** Камедыйная меладрама «Прадаўшчыца» (ЗША).
**12.45** Камедыя «Трыццаць тры» (СССР).
**14.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**14.55** Баскетбол. Ліга ВТБ. Прамая трансляцыя.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Авантурная камедыя «Няўдачлівыя» (Францыя).
**22.50** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**23.20** Спорт-кадр.

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Галасы з мінулага».
**08.45** «Максім Танк». Дак. фільм.
**09.20** «Пінская флатылія». Дак. фільм.
**10.00** «Жалезныя майстры». Дак. фільм.
**10.15** «Радуйся!» Фільм-партрэт кампазітара Віктара Капыцькі.
**10.40** «Карані». Сям'я Яфімавых, якая жыве ў Бранску.
**11.05** «Пявучая бронза Занковіча». Дакументальны фільм.
**11.35** «Полацк». Дакументальны фільм.
**11.50** «Пра тое, што помню і люблю». Дакументальны фільм пра Ніну Ургант.
**12.10** «У рэху імені твайго...» Барбара Радзівіл.
**12.25** «Галасы з мінулага».
**12.45** Серыял выхаднога дня. «Агнём і мячом». 1-я - 4-я серыі.
**16.10** «Без права на дубль». Аляксандр Кайданоўскі.
**16.55** «Культпрасвет».
**17.25** Дзіцячы фільм. «Мёд асы».
**18.45** Сусветнае кіно. «Аповесць пра бедных закаханых».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Лаўрэаты Міжнароднага конкурсу ім. П.І.Чайкоўскага ў гасцях у фестываля Юрыя Башмета.
**22.05** «Культпрасвет».
**22.35** «Раскіданае гняздо». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага.
**00.10** «Галасы з мінулага».
**00.20** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.27** Дэтэктыўны серыял. «Дарожны патруль-4». Расія. 2010.
**08.00** Сёння.
**08.19** Дзікі свет.
**08.50** Іх норавы.
**09.25** Ямо дома!
**10.00** Сёння.
**10.19** Дачны адказ.
**11.24** Паедзем паямо.
**11.56** Цуд тэхнікі.
**12.29** Першая перадача.
**13.00** Сёння.
**13.22** Маст. фільм «Двое ў чужой хаце». Вострасюжэтны фільм. Расія. 2011 г.
**15.05** Важняк. Апошняе каханне кілера.
**16.42** Следства вялі….
**17.39** Ворагі народа.
**18.27** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** Сёння. Выніковая праграма.
**19.50** Маст. фільм «Дубля не будзе» Вострасюжэтны фільм. Расія. 2011 г.
**21.38** Прэм'ера. Новыя рускія сенсацыі.
**22.39** Ты не паверыш!
**23.33** Як на духу.
**00.23** Прамень святла.
**00.53** Школа зласлоўя.

### МИР

**05.00** М/ф «Казкі. «.
**07.30** Мультфільмы.
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Зямля і неба».
**09.35** Прыгоды Македонскай. 6 выпуск.
**09.50** «Са свету па нітцы». 6 выпуск.
**10.15** М/ф «Трое ўгневаных мужчын».
**13.25** М/ф «Новы бай».
**15.10** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**15.45, 21.00** Т/с «Тайга. Курсы выжывання».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.35** М/ф «Слухаючы цішыню».
**00.25** М/ф «Трое ўгневаных мужчын 2.
**02.35** М/ф «Тры таварышы».
**03.55** «Народы Расіі».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Прыгоды і паходы».
**07.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял.
**08.30** Без межаў.
**08.50** Беларусы ў Польшчы.
**09.05** Чорным па белым.
**09.35** Рэпартэр.
**10.00** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял.
**10.30** Еўропа сёння.
**11.00** Спазнай свет: «Бранзалет свабоды», дак. фільм 2006 г., Бельгія.
**11.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.40** «Бландзінка», серыял: 11 серыя.
**12.30** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Крама».
**13.05** «Сыгнет падману», маст. фільм, 2009 г., Канада.
**14.35** «Дзяўчаты з Аўшвіцу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**15.25** Чорным па белым.
**15.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**16.20** Форум (ток-шоу).
**17.10** «Дзеці-тулягі», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** «Час гонару», серыял: 56 серыя.
**19.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Наша газета», дак. фільм, 2010 г., Нідэрланды.
**21.00, 01.50** Два на два (тэледыскусія): Украіна – у Еўразвяз. Што з Беларуссю?..
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Фільматэка майстроў: «Наканаванне блюзам», музычная драма, Польшча.
**23.40** «Палітыканы», серыял: 8 серыя.
**00.25** Відзьмо-невідзьмо: выд. 40.
**01.15** Вагон.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў (8 029) 930 79 22 Міхась;
Мінск (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк (8029) 364 42 60 Зінаіда.

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

МЕРКАВАННЕ

# ОРБАН ШУКАЕ МЭТЫ НА ПАДДАШКУ

Аксана КОЛБ

**Кансалідацыя ўлады асобна ўзятай партыяй у краіне з сацыялістычным і таталітарным мінулым — справа вельмі небяспечная. Ці можа ЕС паўплываць на палітычныя працэсы ў Венгрыі? Якую вайну вядзе прэм'ер Орбан? Пра гэта разважае экс-міністр замежных спраў, першы еўракамісар Венгрыі, а зараз кіраўнік Цэнтра даследаванняў пашырэння ЕС Цэнтральнаеўрапейскага ўніверсітэта (CEU) Петэр Балаш.**



Петэр Балаш. Нарадзіўся ў горадзе Кечкемет у 1941 годзе. Доктар навук. Першы еўракамісар Венгрыі (2004). У 2009–2010 гадах — міністр замежных спраў. Кіраўнік Цэнтра даследаванняў пашырэння ЕС у Цэнтральнаеўрапейскім універсітэце. Валодае англійскай, французскай, нямецкай і рускай мовамі

Новае выбарчае заканадаўства, якое, акрамя іншага, фактычна адмяняе другі тур выбараў. Новы закон пра СМІ, які ставіць пад жорсткі кантроль інтэрнэт і стварае спецыяльную камісію, што будзе сачыць за дзейнасцю СМІ. Чарговае змяненне канстытуцыі, якое ўзмацняе цэнтралізацыю і дае неабмежаваныя паўнамоцтвы дзеючай уладзе. Можна падумаць, што гаворка пра Беларусь. Але ўсё гэта — крокі ўрада Віктара Орбана напярэдадні парламенцкіх выбараў 2014 года.

Менавіта за гэтыя крокі прэм'ера Венгрыі крытыкуе і апазіцыя, і ЕС. Менавіта гэтыя крокі ставяць пад пагрозу дэмакратыю ў краіне, лічаць палітолагі.

У 1996 годзе Беларусь пачала свой шлях да аўтарытарызму менавіта з кардынальнай змены Канстытуцыі… І мне цікава: ці можа Венгрыя пайсці па гэтым жа шляху?

— Кожная краіна ўнікальная, і ў кожнай свой шлях, — лічыць спадар Балаш. — Але галоўная розніца ў тым, што Венгрыя з'яўляецца чальцом ЕС, а Беларусь — не. Акрамя таго, у 1989 годзе ў нашай краіне адбыўся сістэмны пераварот, якога так і не дачакалася Беларусь. Хаця, па сутнасці, яшчэ з 1956 года Венгрыя стала дыстанцыявацца ад сацыялістычнай сістэмы. У 1956 годзе людзі сказалі, што яны лепш памруць, але ў такой сістэме жыць не будуць. Аналагічныя працэсы праходзілі ў Чэхаславакіі, Германіі, Польшчы. Беларусь гэты шлях так і не прайшла.

Наша праблема ў тым, што ў 1990-я гады мы думалі, што калі ўсе нашы дэмакратычныя перамены мы замацуем уваходам у еўрапейскія структуры, то ўжо больш нічога змяніць будзе нельга. Шляху назад не будзе. Мы думалі, што трэба пачакаць тры парламенцкія цыклы, калі кожная партыя пабудзе ва ўладзе, і мы пабачым, як яна паводзіць сябе ва ўладзе і ў апазіцыі. Пасля гэтага мы атрымаем выразную карціну — і грамадства кансалідуецца. Кожная партыя сапраўды была пры ўладзе, але грамадства яшчэ больш заблыталася… Прайшло 20 гадоў. Некаторыя партыі раскалоліся, нейкія зніклі, з'явіліся новыя… Працэс не скончаны. Мы дагэтуль у пачатковай фазе.

***— У чым прычына? Чаго не ўлічылі натхняльнікі і архітэктары дэмакратычных рэформ у Венгрыі?***

— Існуе шмат прычын, але галоўная — адсутнасць мэты. Такой, якая была напрыканцы 1990-х гадоў, — далучэнне да еўрапейскай сям'і. У 2004 годзе Венгрыя стала чальцом ЕС, і людзі падумалі, што зараз будуць вырашаны ўсе іх праблемы. Праблемы засталіся, а мэта знікла.

Доказам адсутнасці такой мэты ёсць дзейнасць правячай партыі, якая зараз шукае мэты на паддашку. І знаходзіць іх у спадчыне Хорці, нацыяналізме Хорці.

Другая прычына — у тым, што ў ЕС недастаткова механізмаў, якія б маглі кантраляваць выкананне еўрапейскіх законаў і нормаў ва ўсіх краінах-чальцах. Праўда, у Англійскім клубе ніхто нікога не кантралюе. Але ўсе прытрымліваюцца яго правіл. ЕС заснаваны на гэтых жа прынцыпах. Усе краіны ўступалі ў Еўрасаюз добраахвотна, і меркавалася, што ўсе будуць прытрымлівацца дзеючых нормаў і правіл. Але зараз некаторыя краіны паводзяць сябе як дзеці, што засталіся без кантролю бацькоў.

***— Ці ёсць у ЕС магчымасць паўплываць на тыя палітычныя працэсы, што адбываюцца ў Венгрыі? І наогул, што адбываецца ў Венгрыі? Можа, эксперты і аналітыкі перабольшваюць пагрозы?***

— Сёння, калі Віктар Орбан сутыкаецца з любым, нават мінімальным, супраціўам сваёй палітыцы, ён перапісвае правілы, змяняе ці ліквідуе інстытуцыі. Аказаў супраціў Канстытуцыйны суд — «Фідэс» (правячая партыя) змяніла закон, і вось ужо Канстытуцыйны суд больш не правамоцны ў пытаннях бюджэту. Суды сталі занадта незалежнымі, і вось ужо ўсе суддзі старэй за 62 гады будуць адпраўленыя на пенсію, трэба зачыніць рот СМІ, — калі ласка, новы закон. Гэта свайго роду таталітарны падыход: уся ўлада любым коштам. Чаму я кажу «свайго роду»? Бо ўсё ж краіна — частка ЕС і NATO, іншыя дзяржавы сочаць за тым, што адбываецца ў Венгрыі. Гэта не татальна зачыненая сістэма а-ля Албанія часоў Энвера Ходжы. Вы можаце ехаць у Аўстрыю, у Славакію, і на мяжы вас ніхто не спыніць. Тут працуе мноства пасольстваў, фундатараў, бізнэсоўцаў, журналістаў… І рана ці позна народу надакучыць. Думаю, першыя прыкметы незадаволенасці ўжо бачныя: бо раней паліцыянты і пажарнікі — тыя, хто павінен абараняць уладу, — не выходзілі на вуліцы. А зараз выйшлі. Урад адкрыў занадта шмат франтоў — з паліцыяй, з судамі… Рана ці позна такім дзеяннем улады будзе пакладзены канец.

Віктар Орбан на нацыянальнае свята заявіў, што Габсбургі не маглі нам дыктаваць, Масква не магла, і Брусэль не зможа. Так, дзейсных палітычных рычагоў у ЕС няма. Але Брусэль прыносіць грошы і аказвае істотную дапамогу. Без гэтага фінансавання шматлікія сацыяльныя праграмы давядзецца зачыніць. І што тады рабіць ураду, як перамагаць на выбарах?

Не трэба змагацца з ЕС. Трэба глядзець наперад, у еўрапейскую будучыню, але не азірацца назад. Кожную раніцу, калі я іду на працу, я праходжу ля плошчы Лаяша Кошута, якую зараз перабудоўваюць. Ведаеце, які выгляд яна будзе мець пасля рэканструкцыі? Яна стане такой, як была ў 1944 годзе.

***— Адкуль у «Фідэс» і яе лідара такое жаданне ісці сваім шляхам, вынаходзіць веласіпед? Банальная прага неабмежаванай улады ці нешта іншае?***

— У нашым цэнтры мы праводзілі даследаванне мадэляў паводзін палітычных лідараў і прыйшлі да цікавай высновы. Доўгі час шмат якія еўрапейскія



Плошча Лаяша Кошута. Менавіта на ёй знаходзіцца будынак парламента Венгрыі. Лаяш Кошут — дзяржаўны дзеяч, юрыст, рэвалюцыянер, прэм'ер-міністр і прэзідэнт Венгрыі ў перыяд рэвалюцыі 1848–1849 гадоў

краіны знаходзіліся пад ціскам якіх-небудзь імперый: Расійскай, Аўстра-Венгерскай, Турэцкай, савецкай, што адбілася на паводзінах палітычных эліт. Можна вылучыць дзве асноўныя мадэлі: залежнасць і непадпарадкаванне. Такая мадэль паводзін спрацоўвалася і на ЕС. Гэта праглядаецца і на ўрадах Венгрыі. Адны кабінеты цалкам выконвалі ўсе парады ЕС. Другія выказвалі свае непадпарадкаванне. Віктар Орбан, гэтак жа, як і Вацлаў Клаўс або Лех Качыньскі, — палітыкі тыпу непадпарадкавання.

У венгерскай гісторыі было шмат вызвольных войнаў, якія, на жаль, заўсёды прайграваліся. Такую ж вызвольную вайну вядзе зараз Віктар Орбан супраць ЕС, супраць усяго глабальнага свету, супраць сусветнага фінансавага лобі, і таму ён усё яшчэ вельмі папулярны. Але гэта не сапраўдная вайна, яна вядзецца не супраць сапраўдных ворагаў. Напрыклад, зараз у нас вораг МВФ, усю краіну завесілі плакатамі супраць МВФ, але прэм'ер добра ведае, што гэтыя грошы патрэбныя краіне. Больш таго, ён ад іх і не адмаўляецца. Ён проста хлусіць.

За кожнай хлуснёй Орбана ідзе чарговая хлусня, якая вядзе ў нікуды. На хлусні ён будуе нейкую неіснуючую рэчаіснасць.

За тры гады парламент прыняў ажно 726 законаў, а сёння спікер парламента Ковер Ласло кажа, хопіць, няхай урад зараз кіруе сваімі ўказамі. Праблема ў тым, што ўладу Орбан выкарыстоўвае для асабістай выгады, а не для краіны. Прыбыткі ідуць асобным людзям, і мы нават ведаем іх імёны. Яскравы прыклад гэтаму — закон пра трафік, які ўвёў манаполію на продаж тытуню.

«Фідэс» проста ўзрушана той бязмежнай уладай, якую яна атрымала, і імкнецца выціснуць з сітуацыі максімум. Гэта вялікая нечаканасць для грамадзян, у першую чаргу для тых, хто галасаваў за «Фідэс».

***— Пра звычайных грамадзян усё зразумела, яны вельмі любяць папулістаў, калі людзі чуюць тое, што ім падабаецца, мозг адключаецца. А венгерскія эліты, якая іх роля, што яны могуць?***

— Пытанне ў тым, каго мы называем элітай. Што тычыцца палітычнай эліты, то за апошнія дзесяцігоддзе палітычная эліта значна маргіналізавалася, знізіўся прэстыж палітыкаў. Першыя венгерскія ўрады (1990–1998) карысталіся вялікай павагай сярод насельніцтва. Пасля 1998 года маральны і прафесійны ўзровень палітыкаў пачаў зніжацца. За выключэннем кароткага перыяду, калі пры ўладзе быў Гордан Байнаі. А за апошнія тры гады палітычны ўзровень знізіўся як ніколі.

Палітыкаў зараз больш турбуе рэйтынг, а не рэальныя справы, якія яны могуць зрабіць. Папулізм зараз вельмі модны. У тым ліку дзякуючы СМІ. Папулістамі былі Саркazі ў Францыі і Берлусконі ў Італіі. Папулізм Орбана называюць футбольным. Орбан усю рыторыку будуе на тым, што існуе дзве каманды, якія змагаюцца паміж сабой. І размаўляе ён з грамадствам як на футбольным полі. Яшчэ яму вельмі падабаецца Пуцін, але пакуль што ён не дарос да яго ўзроўню.

Акрамя таго Орбан паўсюль будуе футбольныя палі і стадыёны. У Еўропе ўжо быў дыктатар, які будаваў стадыёны, — Чаўшэску падбудаваў стадыён нават у вёсцы, дзе нарадзіўся. Усім вядома, як ён скончыў свой шлях.

***— Якія еўрапейскія перспектывы і прыярытэты Венгрыі?***

— Адзіная магчымасць Венгрыі застацца суб'ектам міжнароднай палітыкі і вырашаць свае праблемы — гэта быць разам з іншымі еўрапейскімі краінамі.

Калі я быў міністрам замежных спраў, у мяне на стале ляжала сем папак, па колькасці суседзяў Венгрыі. Штораніцы свой працоўны дзень я пачынаў з таго, што праглядаў кожную з іх, каб пачытаць, што адбылося за суткі. Бо гэта заўсёды адбівалася на нашай палітыцы. А амаль усе нашы суседзі — або чальцы ЕС, або хутка імі стануць, або думаюць пра гэта. Таму, безумоўна, ЕС — наш галоўны прыярытэт.

Наступныя знешнепалітычныя прыярытэты — Вышаградскі саюз і «Дунайская стратэгія», прынятая два гады таму.

Не апошнюю ролю гуляе і «Усходняе партнёрства». Я асабіста быў на Пражскім саміце 2009 года, калі прымалася гэта праграма. У Венгрыі традыцыйна складаліся сяброўскія адносіны з Украінай і Малдовай. Таму зразумела, што мы імкнуліся дабіцца ў рамках «Усходняга партнёрства» больш ідэй і больш грошай. Зараз гэта тэма крыху адсунута. Але Вільнюскі саміт ёсць добрай магчымасцю ўзнавіць інтарэс венгерскага грамадства да «Усходняга партнёрства». У ЕС дастаткова грошай і палітычнай волі, каб узняць «Усходняе партнёрства» на больш якасны ўзровень. Але на гэтых тэрыторыях у ЕС няма манаполіі, тут маюць свае інтарэсы і Масква, і Анкара, і гэта трэба ўлічваць.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. ГОД ПАСЛЯ МАРЫ

Аналітыкі падвозяць вынікі першага года ўраду Бідзіны Іванішвілі, лідара руху «Грузінская мара». Нагадаем, што роўна год таму на хвалі пратэстаў супраць практыкі паліцэйскага гвалту ў турмах «Грузінская мара» атрымала большасць на парламенцкіх выбарах, паклаўшы канец манапольнай уладзе партыі прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі. Што добрага, а што кепскага адбылося ў Грузіі за мінулы год? Пазітывам некаторыя палітолагі лічаць рост дэмакратыі, што праяўляецца перш за ўсё ў плюралізме СМІ. Менш залежнымі ад выканаўчай вертыкалі сталі МЗС і суды. Бізнэс перастаў баяцца рэгулярных набораў пад розныя дзяржаўныя святы. Да негатыўных наступстваў адносяць перш за ўсё рост крымiналу. Не падабаецца аналітыкам і вузкасць поглядаў новага ўраду. У Грузіі практычна адмовіліся ад развіцця буйной інфраструктуры. Частка палітолагаў таксама адзначае, што за час Бідзіны царква, як ніколі ў гісторыі незалежнай Грузіі, пачала лезці ў палітыку. Застаецца дадаць, што рэйтынг падтрымкі кабінету, які фармуе «Грузінская мара», сёння складае менш за 50 працэнтаў. У тым, што давер упаў, таксама бачаць плюс. Грузіны, трошкі расчараваўшыся ў Бідзіне, сталі больш талерантнымі і, адпаведна, градус напружанасці ў краіне ўпаў.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ЗША. КРЫЗІС І ПЫТАННЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ПУЭРТА-РЫКА

Абсалютна незвычайныя наступствы мае цяперашні бюджэтны крызіс у ЗША на палітычнае жыццё Пуэрта-Рыка (карыбская астраўная дзяржава, якая мае статус «дзяржавы, якая вольна далучылася да ЗША»). Мясцовыя незалежнікі даўно мараць пра выхад з-пад кантролю ЗША, аднак самі жыхары выспы ўпарта не жадаюць такой перспектывы. Усё таму, што яны карыстаюцца ўсімі правамі жыхароў ЗША, за выключэннем права галасаваць на федэральных выбарах. Аднак цяпер у аматараў незалежнага Пуэрта-Рыка з'явіўся шанец. З-за таго, што ўсе федэральныя супрацоўнікі сышлі ў адпачынак, уся інфраструктура «каланізатараў» сама па сабе практычна знікла. Непасрэдна перасталі працаваць прадстаўніцтва федэральнага суду, дэпартаменты сацыяльнай дапамогі, міграцыі і іншыя структуры, якія фінансуюцца з цэнтру. Незалежнікі маюць надзею, што праблемы ў Вашынгтоне зацягнуцца, і кіраўніцтву вострава не застанецца нічога іншага, як пачаць будаваць паўнавартасную адміністрацыю, што, у сваю чаргу, стане пралогам абвяшчэння незалежнасці выспы.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. ПУЦІН ПАВІНЕН СТАЦЬ НА КАЛЕНІ

У Кыргызстане працягваюцца дэбаты наконт адказнасці Расіі за Уркун (кірг.: Сыход). Дыскусія стартавала яшчэ ў жніўні, калі тут адзначалі чарговую гадавіну паўстання 1916 года. Нагадаем, у 1916 годзе ўлады царскай Расіі прызвалі на службу ў войска мужчынскае насельніцтва Цэнтральнай Азіі, аднак значная частка тубыльцаў адмовілася падпарадкоўвацца загаду і пачала бунт. Тады ў рэгіён з Расіі былі перакінутыя войскі. Спалохаўшыся расправы, кіргізы вымушаныя былі бегчы ў Кітай, да якога дайшлі далёка не ўсе. Сёння частка кіргізскага палітыкуму называе тыя падзеі генацыдам і прапануе патрабаваць ад Расіі кампенсацыі для нашчадкаў ахвяраў Уркуна. Кульмінацыяй акцыі выбачэння, на іх думку, павінны стаць урачыстасці з нагоды сотай гадавіны падзей, калі Пуцін прыедзе ў Бішкек і апусціцца на калені перад мемарыялам, прысвечаным трагедыі. На днях адзін з лідараў кіргізскіх нацыяналістаў заклікаў да масавай дэпартацыі з краіны ўсіх рускамоўных у якасці помсты да Уркун.

**Паводле кіргізскай прэсы**

### ФРГ. 25 ГАДОЎ СА ДНЯ СМЕРЦІ ШТРАЎСА



Практычна ўсе нямецкія выданні ўзгадалі 3 кастрычніка 1988 года, калі ва ўзросце 70 гадоў памёр баварскі палітык Франц Ёзэф Штраўс. Ён быў вельмі супярэчлівай постаццю ў гісторыі ФРГ. Будучы міністрам абароны, у 1962 годзе ён дабіўся арышту рэдакцыі ўплывовага штотыднёвіка «Spiegel», што было ўспрынята сучаснікамі як замах на асновы дэмакратыі. Прагрэсіўная грамадскасць ненавідзела Штраўса, аднак той карыстаўся каласальнай падтрымкай у Баварыі і ўпарта заставаўся ў палітычнай эліце. У 1980 годзе ён нават быў лідарам кансерватараў на выбарах у Бундэстаг. Праўда, з-за яго адмоўнага іміджу лібералы не пагадзіліся ўступаць у кааліцыю са Штраўсам і аддалі перавагу эсдэкам. Патавая сітуацыя дала шанец праціўніку Штраўса Гельмуту Колю, які не так раздражняў лібералаў. У 1982 годзе Коль і Геншэр (лідар лібералаў) заключылі кааліцыю, паклаўшы канец не толькі дэкадзе знаходжання эсдэкаў пры ўладзе, аднак і эпосе Штраўса. У 1988 годзе Штраўс памёр, што стала сапраўднай трагедыяй для баварцаў. Між тым, сёння гісторыкі спрачаюцца, што было б, калі баварскі палітык дацягнуў да пачатку працэсу аб'яднання Германіі. Не выключана, што Штраўс, які быў на нажах з Колем, мог паспрабаваць сарваць ягоную формулу аб'яднання Германіі. На думку шмат каго, Штраўс, маючы вялікі аўтарытэт сярод правых, мог дабіцца прыняцця новай канстытуцыі Германіі, у якой суб'екты федэрацыі атрымалі б большую ступень самастойнасці.

**Паводле нямецкай прэсы**

▸ **ГЕАПАЛІТЫКА**

# НАВОШТА АРМЯНАМ МЫТНЫ САЮЗ?

*Алег НОВІКАЎ*

**Намер ураду Арменіі далучыцца да Мытнага саюзу (МС) прымусіў экспертную супольнасць СНД пачухаць палітыцу. Прапануем агляд аналітыкі на гэту тэму.**



Прыкладна год таму армянскі прэм'ер Тыгран Саркісян сказаў: «У сусветнай практыцы няма такога прыкладу, каб краіна, не маючы [агульнай з іншымі краінамі-ўдзельніцамі] мяжы, стала членам Мытнага саюза. Гэта б не мела сэнсу. Сэнс Мытнага саюза заключаецца ў тым, што абмен таварамі ажыццяўляецца без мытнага дагляду. У нашым выпадку гэта немагчыма, таму што мы павінны праходзіць праз тэрыторыю суседняй дзяржавы і двойчы пераадольваць растаможку».

Не прайшло і года, як 3 верасня ў Маскве на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў Расіі і Арменіі прэзідэнт Серж Саргсян заявіў пра намер Арменіі ўдзельнічаць у праекце Мытнага саюза. Галоўны рэзон такой інтэграцыі — «армянскія тавары змогуць пастаўляцца на рынкі Расіі і краін МС вольна без пагрозы санкцый з боку Аншчанкі».

Відавочны кантраст заяў армянскіх лідараў на працягу апошняга года прымушае асцярожна ставіцца да афіцыйных камюніке і самім шукаць адказ на пытанне, навошта ж армянам Мытны саюз.

Хаця, на думку большасці аналітыкаў, пытанне павінна гучаць інакш: «Нашто Расіі было так моцна ціснуць на Арменію, каб яна так хутка ўвайшла ў МС?» Тое, што армяне нечакана аказаліся пад прэсам Крамля, сведчыць аналіз падзей. Да паездкі Саргсяна ў Маскву палітыка афіцыйнага Ерэвана была іншай і арыентавалася на падпісанне на Вільнюскім саміце дамовы аб вольным гандлі з ЕС». Плюс ёсць інсайдэрская інфармацыя. «Wall Street Journal» цытуе аднаго з заходніх дыпламатаў, які кажа: «Арменія вяла цалкам добрасумленныя перамовы з Еўрасаюзам, аднак армяне самі не чакалі, што Расія будзе так на іх ціснуць».

Дарэчы, тое, што Арменія аказалася без пяці хвілін сябрам вольнай гандлёвай зоны з ЕС, спарадзіла версію пра тое, што Смаленская плошча праспала працэс перамоваў Ерэвана і Брусэля. Быццам, толькі напярэдадні Вільнюса ў Маскве зразумелі крытычнасць сітуацыі. Таму прыйшлося без асаблівых цырымоній цягнуць краіну ў склад МС.

Ёсць некалькі версій, з дапамогай чаго Арменію «добраахвотна інтэгравалі». Так, на думку Давіда Петрасяна, на перамовах у Маскве былі ўзняты пытанні бяспекі краіны, у якіх Ерэван цалкам залежыць ад Масквы. «Для Арменіі, якая з боку Сцепанакерта ўцягнутая ўжо больш чым у 25-гадовы канфлікт Нагорнага Карабаху і Азербайджана, пытанне бяспекі застаецца ключавым», — піша эксперт.

У тым жа ракурсе разглядае сітуацыю Аляксандр Караваеў: «Галоўным матывам рашэння Саргсяна, мабыць, сталі асцярогі магчымай змены курсу Масквы на карысць Баку, якія ўзмацніліся пасля Бакінскага азербайджана-расійскага саміту. Акрамя таго, Саргсян знаходзіцца пад уплывам армянскіх і расійскіх ваенных лабістаў. Натуральна, што звязка Еўразійскі саюз — АДКБ пусціла трывалыя карані ў свядомасці сілавікоў з кіруючага клана».

А вось эксперт Міхаіл Цішчанка пачуў тут пах газпрамаўскай прадукцыі: «Пару месяцаў таму стала вядома, што цана на газ для Ерэвана павялічыцца са 180 да 270 долараў за тысячу кубаметраў. Для насельніцтва Арменіі былі зацверджаны новыя тарыфы — вышэй за ранейшыя на 18 адсоткаў. У канцы жніўня з'явілася інфармацыя аб тым, што паміж Расіяй і Арменіяй прайшлі перамовы з нагоды «субсідавання новых тарыфаў». У Маскву вылецеў міністр энергетыкі рэспублікі Армен Мавсісян, які ахарактарызаваў гэтыя перамовы як паспяховыя. Цалкам можна выказаць здагадку, што пытанне аб уступленні Арменіі ў МС тады і было ўжо вырашана».

Згадаем і азербайджанскія версіі. Як вядома, у Баку публічна ставяцца да ўсяго, што адбываецца ў Ерэване. Нядзіўна, што пакт 3 верасня тут трактавалі як праяву сістэмнага крызісу армянскай дзяржаўнасці, як капітуляцыю. З гэтым, дарэчы, згодныя і некаторыя армянскія палітолагі. Армэн Харазян піша: «Арменія добраахвотна пераўтвараецца ў дзяржаву, якая паразітуе, у грамадства, якое не ў стане развівацца самастойна, якое можа існаваць, толькі стаўшы прыдаткам яшчэ большай сістэмы. Арменія ідзе ў МС не зыходзячы з прагматычных разлікаў, што сяброўства ў гэтай структуры будзе ёй выгадна».

Аднак самае цікавае не тое, чым армян прыпіралі да сценкі, а навошта. Ёсць думка, што Арменія спатрэбілася для прапагандысцкіх мэтаў.

Самая галоўная версія звязаная з правалам глабальных інтэграцыйных планаў Пуціна ў СНД. Маскве трэба было фарсіраваць інтэграцыйны працэс, каб кампенсаваць няўдачы на іншых напрамках. Як выказаўся палітолаг Сяргей Мінасян, «тут адыграла ролю нейкая псіхалагічная фрустрацыя крамлёўскага кіраўніцтва, звязаная з праблемамі з Украінай і збольшага Беларуссю ў сувязі з МС. Верагодна, Маскве важна было прадэманстраваць поспех еўразійскага інтэграцыйнага праекта — хай нават і сімвалічны».

А вось армянскі журналіст Мак Грыгаран лічыць, што аперацыя па далучэнні Арменіі для МС звязаная з нейкімі праблемамі Пуціна. На яго думку, пра гэта сведчыць дэманстратыўная нахабнасць, з якой інтэгравалі армян. «Я не знаходжу іншага тлумачэння, акрамя як жаданне Пуціна паказаць, хто ў доме гаспадар». Зневажаючы, ён як бы дэманстраваў сілу, «біў сваіх, каб чужыя баяліся».

У гэтую логіку кладзецца версія Юры Баранчыка з сайта «Імперыя». Ён лічыць, што прыём Арменіі ў МС — гэта сігнал Беларусі: «Такім чынам далі Мінску зразумець, што «перавод канфлікту [выкліканага затрыманнем кіраўніка «Уралкалія» Уладзіслава Баўмгертнера] у плоскасць шантажу з нагоды магчымага выхаду з Мытнага саюза нічога не дасць».

Вось такія версіі. Што да Арменіі, то краіна рыхтуецца да грандыёзных прарываў у рамках МС. Урадам Расіі і Арменіі ўжо даручана распрацаваць механізмы інтэграцыйнага працэсу з улікам асаблівасцяў Арменіі, у прыватнасці, адсутнасці межаў. Плануюцца расійскія інвестыцыі аж на 15 мільярдаў долараў, якія ўключаюць новыя сумесныя праекты ў галіне транспарту, атамнай энергетыкі, хіміі, чыгункі. Армянскія чыноўнікі, каментуючы планы, абавязкова адзначаюць: наўрад ці ЕС сапраўды мог выдзеліць столькі грошай, як Масква.

Аднак як бы бадзёра ні гучалі фанфары наконт перспектыў Арменіі ў складзе МС, усё разбіваецца аб непрыемную гісторыю пра тое, як яе лідарам выкручвалі рукі напярэдадні 3 верасня. А таксама ў агучваю адным палітыкам фразу: «У сусветнай практыцы няма такога прыкладу…»

МЕРКАВАННЕ

# ЯК ВОВА ПАСВАРЫЎСЯ З ВІЦЕМ

**Адной з прычынаў нечаканага развароту Украіны ў накірунку Еўрасаюзу называюць асабістую непрыязнасць паміж Януковічам і Пуціным. Пра ўплыў асабістага фактара на ўкраінскую еўраінтэграцыю журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з украінскім журналістам Дзмітрыем Уласавым.**



***— Якую ролю ва ўкраінскай палітыцы адыгрываюць асабістыя забабоны?***

— Дастаткова важную. Хаця б з улікам таго, што ўкраінская палітыка — гэта дуэль асобаў, харызмаў, а не ідэалогій. Сімпатыі і антыпатыі на адрас нейкай асобы і іх дэманстратыўная праява на публіцы — важная складовая іміджу палітыка. Сваю ролю таксама адыгрываюць папулярныя ў краіне палітычныя ток-шоў. Вядоўцы часта наўмысна падбіраюць на праграмы заўзятых антаганістаў, каб яны стварылі карцінку жорсткай палемікі, якая часта пераходзіць у фармат «сам дурань»…

***— Што можна сказаць пра асабісты характар Віктара Януковіча?***

— З Януковічам сітуацыя не звычайная. На першы погляд, цяжка сказаць, што ён мае нейкую харызму. Гэта чалавек глыбока пагружаны ў сямейныя і асабістыя праблемы. Бізнэс-інтарэсы сына, гаспадарка, камфорт, спорт, рэлігія — вось што сапраўды цікавіць Віктара Фёдаравіча. Часам здаецца, што працэсы за межамі яго рэзідэнцыі ўспрымаюцца ім як нейкая дробязь. Гэта вельмі не характэрна для ўкраінскай палітыкі, дзе запатрабаваныя яскравыя папулісты. Дарэчы, гэтыя рысы характару Януковіча дазваляюць шмат каму казаць, што ніякая дыктатура Украіне пры цяперашнім прэзідэнце не пагражае. Януковіч не падобны на аўтарытарных палітыкаў СНД.

Галоўны козыр Януковіча — развітыя арганізатарскія здольнасці, шматгадовы вопыт маштабнай кіраўнічай працы плюс фантастычная ўнутраная воля. Яна дазволіла яму рэабілітавацца ў грамадстве пасля турмы, зрабіць кар'еру з нуля, выжыць у палітыцы пасля 2004-га, захаваць лідарства ў апазіцыі, забяспечыць перамогу на прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах. Самі мяркуйце, які трэба мець характар, каб у тактычных мэтах наладзіць партнёрства з Юшчанкам усяго толькі праз год пасля Майдану, дзе Януковіча называлі выключна «зэк» і «бандыт». У гэтым плане, безумоўна, Януковіч — феномен. Ва Украіне вельмі мала палітыкаў, якім не патрэбны іміджмейкер. Нашто Віктару Фёдаравічу іміджмейкер, калі ўсе адразу бачаць — гэта мужык.

***— Калі ўпершыню пачалі казаць, што Пуцін пакрыўдзіў украінскага гаранта?***

— Наконт гэтага ёсць цэлая калекцыя тэорый. Некаторыя лічаць, што сабака паміж прэзідэнтамі прабег яшчэ ў 2004 годзе, падчас вайсковага параду ў Кіеве, калі Януковіч прама на трыбуне пачаставаў Пуціна і Мядзведзева цукеркай. Мядзведзеў узяў. А Пуцін адмовіўся і неяк крыва ўсміхнуўся. Быццам, Януковіч успрыняў гэта як знявагу.

Ганна Герман, адна з вельмі набліжаных да прэзідэнта асобаў, кажа, што Януковіча не змог прабачыць дэмаршу Пуціна падчас святкаванняў 1025-годдзя хрышчэння Русі, якія мелі месца ў Кіеве ўлетку. На галоўнае мерапрыемства, куды прэзідэнцкая адміністрацыя прывезла ўвесь праваслаўны клір, Пуцін спазніўся хвілін на 15–20, быццам падкрэсліваючы свой асаблівы больш высокі за Януковіча статус. З улікам таго, што Януковіч вельмі праваслаўны, той выпадак мог сапраўды выклікаць у яго нейкі негатыў.

Аднак яшчэ раней у Крыму Пуцін спазніўся на рандэву з Януковічам з-за сустрэчы з групай байкераў. Прычым сустрэча з Януковічам была пратакольнай. Такія канфліктныя эпізоды, быццам, у выніку сфармавалі ў Януковіча сталую асабістую антыпатыю да Уладзіміра Уладзіміравіча.

***— Ці можна казаць пра тое, што Пуцін наўмысна хацеў неяк абразіць украінскага лідара?***

— Наўрад ці палітыкі дазваляюць сабе такія капрызы. Тым больш, такі вопытны, як Пуцін. Палітолагі кажуць, што расійскім палітыкам папросту характэрна несур'ёзнае стаўленне да ўкраінскіх калегаў, паколькі ўкраінская дзяржаўнасць дасюль часта ўспрымаецца імі як нейкі кур'ёз. Гэты забабон, напэўна, праяўляецца на ўзроўні асабістай камунікацыі.

Магчыма, недзе Пуціну не хапіла такту. Пуцін — перакананы расійскі дзяржаўнік з адпаведным наборам каштоўнасцяў. У яго няма сумневу ў тым, што Украіна павінна быць у МС і ў складзе Адзінай эканамічнай прасторы. Таму ён часам проста занадта прама прасоўвае свой пункт гледжання.

Ёсць думка, што тут згуляў сваю ролю адрозны сацыяльны бэкграўнд палітыкаў. Калі Пуцін выйшаў з сілавых структур, то Януковіч, калі ўзгадваць яго біяграфію, паходзіць з іншай сацыяльнай групы. На думку прыхільнікаў гэтай версіі, былому афіцэру вельмі складана прыняць як роўнага сабе чалавека, які некаторы час ненавідзеў усіх людзей у пагонах. Маю на ўвазе крымінальнае мінулае Віктара Фёдаравіча.

Вядомы ўкраінскі палітолаг Уладзімір Фясенка адзначаў, што рускія не ўлічваюць характар Януковіча. Януковіч не любіць, калі на яго ціснуць. З часоў ранняй хуліганскай маладосці ён прызвычаіўся, што, калі на цябе ціснуць, трэба дэманстраваць сілу, інакш цябе проста знішчаць. Менавіта таму прэзідэнт Украіны на ціск адказвае жорсткай лініяй паводзінаў.

***— Сустракаюцца версіі пра тое, што не Пуцін, а Януковіч пакрыўдзіў калегу.***

— У сакавіку дырэктар расійскага Фонду нацыянальнай энергетычнай бяспекі Канстанцін Сіманаў казаў, што Пуцін вельмі пакрыўджаны на Януковіча. Быццам, яго дастала нявызначаная пазіцыя Кіева па пытанні далучэння да Мытнага саюза. Аднак трэба падкрэсліць, што асабісты канфлікт, калі ён і меў месца, — не асноўны дэтэрмінатар змены курсу Кіева на Захад. Папросту ён таксама адыграў ролю.

***— Калі ўзгадаць адносіны Краўчука, Кучмы або Юшчанкі з расійскімі прэзідэнтамі, можна сказаць, што ў гэтым дыялогу ёсць нейкая парадыгма, або ўсё вызначае індывідуальнасць палітыка?***

— Індывідуальнасць займае важнае месца ў дыялогу Масквы і Кіева. Дастаткова згадаць Віктара Юшчанку, які завочна ўспрымаўся ў Крамлі як антымаўскоўскі палітык. Аднак ёсць і нейкая заканамернасць. Логіка знешняй палітыкі Расіі базіруецца на тым, каб максімальна ўзмацніць уплыў на дзяржавы постсавецкай прасторы і максімальна затармазіць рух краін, асабліва тых, якія знаходзяцца на захадзе, у бок Еўропы. І хто б гэта ні быў — Пуцін, Мядзведзеў ці нехта іншы — гэтая логіка будзе дзейнічаць. Ёсць логіка і ў дзеяннях Украіны, незалежна ад таго, хто пры ўладзе — Юшчанка ці Януковіч. Логіка еўрапеізацыі Украіны незваротная па той простай прычыне, што гэта адзіны шанец Украіны мець суб'ектнасць у міжнароднай палітыцы, балансуючы паміж цэнтрамі ўплыву — Крамлём і Брусэлем. Таму адраджэнне аўтарытарных тэндэнцый у Расіі адразу стымулюе праеўрапейскі вектар ва Украіне. Што мы, дарэчы, цяпер і назіраем.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Нечакана для ўсіх прэс-служба прэзідэнта Казахстана заявіла аб правядзенні афіцыйных святкаванняў 300-й гадавіны нараджэння Абылай-хана — лідара казахскага ханства XVIII стагоддзя. Эпоха Абылай-хана, напэўна, была апошняй спробай казахаў на той час заснаваць сваю дзяржаву, балансуючы паміж Кітаем і Расіяй. Пазней казахскія жузы пачалі паступова станавіцца васаламі Масквы. Тое, што Елбасы вырашыў святкаваць гадавіну нараджэння Абылай-хана, дастаткова незвычайна, паколькі ў 1991 годзе ў Казахстане на дзяржаўным узроўні святкавалі 280-ю гадавіну нараджэння хана. Як след, 300-гадовы юбілей прыпадаў на 2011-ы год. Аднак у адміністрацыі Назарбаева чамусьці падкарэктавалі год нараджэння Абылая. Цяпер шмат хто ламае галаву над разгадкай гэтага пытання. Афіцыйная версія — святкаваць у 2011-м было нелагічна, паколькі краіна і так святкавала 20-ю гадавіну незалежнасці. Між тым, апазіцыйныя журналісты лічаць, што прычына ў іншым. Быццам, Назарбаеў зноў заняўся пошукам нейкай вялікай гістарычнай асобы, з якой ён хоча сябе асацыяваць. Выбар у выніку прыпаў на Абылай-хана. Дарэчы, напачатку 1990-х гадоў афіцыёз ужо пісаў пра тое, што Назарбаеў — гэта рэінкарнацыя Абылай-хана, аднак пасля гэта тэма знікла.

### ЭНРЫКА ЛЕТА



Лета — прэм'ер Італіі і вялікі здраднік у вачах Сільвія Берлусконі. Справа ў тым, што Лета пасварыўся з Берлусконі, сябрам партыі якога ён з'яўляўся. Нягледзячы на канфлікт, кабінет Лета здолеў атрымаць падтрымку большасці сяброў парламента падчас галасавання наконт вотуму даверу, які ініцыяваў той жа Берлусконі. Канфлікт з Сільвія прымусіў Энрыка думаць пра сваю партыю. У выніку мазгавога штурму ён вырашыў адрадзіць легендарную партыю «Хрысціянскія дэмакраты» (DC). DC была вядучай правацэнтрысцкай партыяй Італіі пасля вайны, пабываўшы амаль ва ўсіх урадах, пакуль у 1994 годзе з-за серыі карупцыйных скандалаў не рухнула ўся палітычная сістэма Першай італьянскай рэспублікі, пахаваўшы ў тым ліку DC. Пасля гэтага большасць хрысціянскіх дэмакратаў разбеглася па розных тусоўках. І вось цяпер Лета намагаецца адрадзіць былы праект. Самае цікавае, што такой перспектывы вельмі баяцца цяперашнія галоўныя саюзнікі Лета з левай Дэмакратычнай партыі. Адраджэнне хрысціянскіх дэмакратаў можа выклікаць раскол левых, да якіх запісалася ў свой час шмат кансерватараў, незадаволеных тым, што папуліст Берлусконі акупаваў правый фланг.

### МАНУЭЛЬ ВАЛЬС



Зініцыятывы кіраўніка французскага МУС Вальса Францыя заявіла, што выступае супраць уваходу Румыніі ў Шэнгенскую зону з-за праблемы цыганскай эміграцыі. Такі крок французаў выклікаў шок у Бухарэсце. Усё з-за таго, што прадстаўнікі румынскай палітычнай і культурнай эліты традыцыйна лічаць сябе франкафонамі (часткова гэта звязана з тым што французская культура вельмі моцна паўплывала на бацькоў-заснавальнікаў незалежнай Румыніі). Таму Румынія ўвесь час знаходзіла падтрымку ў Парыжы, нягледзячы на палітычную кан'юнктуру. Францыя, напрыклад, заўсёды падтрымлівала дыктатара Чаўшэску, якія б нумары апошні не выкідваў. І вось цяпер стратэгічнае сяброўства і культурна-моўная блізкасць больш не працуюць. Для румынскай інтэлігенцыі гэта падобна да сапраўднай трагедыі. Пакуль румыны абураюцца, французы выказваюць падтрымку на адрас свайго галоўнага жандара. Каля 90 працэнтаў жыхароў Францыі сапраўды лічаць, што румынскім цыганам цяжка інтэгравацца. Шалёная падтрымка Вальса рэанімавала плёткі пра тое, што менавіта ён можа стаць наступным прэм'ерам і ўвогуле галоўным кандыдатам сацыялістаў на наступных прэзідэнцкіх выбарах.

ЦІКАВА

# КРЭПАСЦІ, ЯКІХ БАЯЎСЯ СТАЛІН

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Камандаванне Чырвонай Арміі пільна вывучала польскія фартыфікацыйныя ўмацаванні нават пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза.**

## Бальшавікі супрацоўнічаюць з нацыстамі

23 мая 1940 года наменснік народнага камісара абароны СССР, маршал Рыгор Кулік падпісаў сакрэтную дырэктыву аб стварэнні адмысловай камісіі па вывучэнні фартыфікацыйных канструкцый, створаных у Польшчы напярэдадні Другой сусветнай вайны. У чэрвені 1941 года, за некалькі дзён да нападу нацысцкай Германіі на Савецкі Саюз, савецкае камандаванне атрымала падрабязную аналітычную запіску, прысвечаную аналізу польскай фартыфікацыі па лініі ракі Нараў, мадэрнізаванай у 1931–1932 гадах крэпасці Асавец, умацаванняў ля Аўгустоўскага каналу і Баранавіцкага ўмацаванага раёну ля мястэчак Сталовічы і Крошын. Праца савецкай камісіі адбывалася не толькі на тэрыторыі, далучанай да СССР у верасні 1939 года, але таксама і на тэрыторыі Польшчы, акупаванай нацыстамі. У гэты час паміж Сталінам і Гітлерам быў "мядовы месяц", які праяўляўся ў тым ліку і ў супрацоўніцтве камандавання вермахта і Чырвонай Арміі.

Савецкія інжынеры адзначалі, што сярод польскіх умацаванняў, узведзеных адразу пасля Першай сусветнай вайны (у тэксце справаздачы выкарыстоўваўся тэрмін «імперыялістычная»), сустракаліся канструкцыі старога тыпу з металічнай абаронай, зробленай з бэлек ці рэек. Ва ўмацаваннях больш позняга тыпу выкарыстоўваліся жалезабетонныя ўмацаванні з французскай сістэмай арміравання.

Аналізуючы мадэрнізацыю ўмацаванняў у крэпасці Асавец, савецкія вайсковыя аналітыкі адзначалі, што асабліва баяздольнай яе часткай быў форт Зарэчны (пабудаваны ў 1880-я гады і мадэрнізаваны ў 1931–1932 гадах), а таксама форты Цэнтральны і Шведскі. Напярэдадні Другой сусветнай вайны ў крэпасці былі збудаваны два моцныя артылерыйскія паўкапаніры, якія дазвалялі прастрэльваць даліну ракі Бобр. Акрамя гэтага, ля мястэчка Вулька Пясэчна і ля ракі Бобр знаходзілася група жалезабетонных капаніраў-блакгаўзаў. У форце Зарэчны ўсе адкрытыя капаніры старой канструкцыі ў 1930-х гадах былі заменены на бетонныя капаніры з бронекаўпакамі.

Што ж тычыцца ўмацаванняў ля Візны, Аўгустова, Вулькі Пясэчнай, то там палякі ў асноўным будавалі кулямётныя ДАКі, якія павінны былі сустрэць наступаючага праціўніка «сцяной кулямётнага агню». Але значнай хібай было тое, што ў гэтых раёнах Войска Польскае не мела глыбока эшаланіраванай абароны. Польскія агнявыя кропкі маглі весці не толькі франтальны, але і фланкіруючы кулямётны агонь, забяспечваючы эфектыўную абарону ўмацаванага ўчастка. Акрамя гэтага, ля агнявых кропак меліся акопы для пяхоты.

Аналізуючы падзеі вераснёўскай кампаніі 1939 года, аўтары дакладу адзначалі, што немцы для прарыву польскіх умацаванняў не выкарыстоўвалі дальнабойнай артылерыі. Значную ролю пры прарыве польскай лініі абароны адыгралі штурмавыя групы вермахта, якія мініравалі ўваходы ДАКаў і амбразуры. Вялізарнай хібай такіх абарончых умацаванняў была адсутнасць артылерыйскай, супрацьтанкавай падтрымкі. Сапраўды, пры выкарыстанні вялікай колькасці танкаў (як гэта рабілі нацысты падчас «бліцкрыгу» супраць Польшчы — І.М.) лінія кулямётных ДАКаў і паўкапаніраў не стварала вялікую перашкоду для наступаючага агрэсара. Танкі проста праходзілі праз польскія ўмацаванні і ішлі наперад, а ўмацаваныя кропкі, што заставаліся ў тыле, знішчалі штурмавыя групы сапёраў і пяхоты.

На жаль, савецкія аналітыкі не пазначылі эфектыўнасць дзейнасці спецыяльна падрыхтаваных нямецкіх сапёраў, якія, нібы костачкі ў кампоце, знішчалі польскія ДАКі. Між тым, у чэрвені 1941 года штурмавыя групы вермахта, як і ў Польшчы, будуць эфектыўна змагацца ўжо супраць савецкіх умацаванняў.


Польскі бронекаўпак


Салдаты Войска Польскага з кулямётамі Браўнінга, 1930-я гады

## Баранавіцкая крэпасць

17 красавіка 1936 года генеральны інспектар узброеных сіл Другой Рэчы Паспалітай выдаў распараджэнне аб арганізацыі працы па будаўніцтву фартыфікацыйных умацаванняў на мяжы з Савецкім Саюзам. У гэтым сэнсе важнейшую ролю адыгрываў Баранавіцкі ўмацаваны ўчастак, галоўнай задачай якога была арганізацыя абароны так званых «Смаленскіх варот» — лініі дарог, што вялі праз Брэст і Беласток да Варшавы. Пры гэтым стрымліваючыя баі павінны былі адбывацца на лініі рэк Нёман, Уша, Сэрвач, Верхняя і Ніжняя Шчара.

Польскае камандаванне разумела, што ў выпадку вайны з СССР Чырвоная Армія будзе наступаць у накірунку польскай сталіцы па найбольш кароткім шляху, праз Заходнюю Беларусь. Абарончы ўчастак «Баранавічы» быў падзелены на пяць падучасткаў. «Нёман» — ахопліваў тэрыторыю Налібоцкай пушчы. «Сэрвач» — па ўсёй лініі ракі Сэрвач. «Брама Гарадзішча» — ахопліваў тэрыторыю водападзелу паміж рэкамі Шчара і Сэрвач. «Цэнтр» — уздоўж ракі Шчара, па абодвух баках дарогі Мінск–Баранавічы. «Слуцкая шаша» — уздоўж шашы Слуцк–Брэст.

Пры гэтым польскае камандаванне актыўна выкарыстоўвала нямецкія і аўстрыйскія ўмацаванні перыяду Першай сусветнай вайны, а таксама будавала новыя ўмацаваныя кропкі. Усяго з 1931 па 1938 гады пад Баранавічамі было пабудавана і мадэрнізавана 350 ДАКаў. Акрамя гэтага былі збудаваны плаціны і дамбы на рэках Сэрвач, Верхняя і Ніжняя Шчара.

Аналізуючы польскую фартыфікацыю ля Баранавічаў, савецкія інжынеры падкрэслівалі, што тут былі розныя тыпы ўмацаванняў і канструкцый. Ля мястэчка Сталовічы палякі пабудавалі і мадэрнізавалі значную колькасць франтальных аднапавярховых і двухпавярховых агнявых збудаванняў. Ля мястэчка Крошын пераважалі жалезабетонныя кулямётныя паўкапаніры і капаніры, што мелі бронекаўпакі для вядзення франтальнага агню. Пры гэтым аўтары аналітычнага дакладу падкрэслівалі, што глыбіня паласы абароны стваралася некалькімі паслядоўнымі лініямі ўмацаванняў.

Цікавым было адзначэнне таго, што дзеля маскіроўкі сваіх ДАКаў палякі засаджвалі іх маладымі дрэвамі, аднак у некаторых выпадках гэтыя зялёныя аазісы па сярэдзіне поля па просту выдавалі ДАКі і дазвалялі праціўніку зарыентавацца, што перад ім знаходзіцца польскі апорны пункт.

У тым жа 1941 годзе Выдавецтва Ваенна-інжынернай акадэміі Чырвонай Арміі публікуе працу «Жалезабетонныя фартыфікацыйныя збудаванні Польшчы», у якой даволі падрабязна разглядалася сістэма пабудовы польскіх ДАКаў. У выданні, у прыватнасці, адзначалася, што польская Вышэйшая школа інжынераў у Варшаве, што «выдала ў 1938 годзе працу «Асновы праектавання доўгатэрміновых фартыфікацыйных збудаванняў», зрабіла карэнныя змены ў сістэме фартыфікацыі. Зробленая гэта было пад уплывам ідэй французскіх вайсковых інжынераў. Як падкрэслівалася ў савецкім выданні, пры будаўніцтве ўмацаваных раёнаў, у тым ліку і ля Баранавіч, практыкавалася будаўніцтва па індывідуальных праектах, пры гэтым пазбягалася ўсялякая стандартнасць іх формы. Таксама характэрнай рысай польскіх умацаваных кропак было масавае выкарыстанне бранявых каўпакоў.

***

У сакавіку 1940 года Панцеляймон Панамарэнка накіраваў у Крэмль дакладную запіску, у якой, у прыватнасці, падкрэсліваў, што ў былым Баранавіцкім умацаваным раёне польскай арміі захаваліся бронекаўпакі з выдатнай нямецкай сталі. Ён таксама адзначаў неабходнасць дэмантаваць абсталяванне вузкакалейнай чыгункі, якая была пабудавана для арганізацыі транспартнай сувязі паміж пунктамі абароны. 9 чэрвеня 1941 года Панамарэнка накіраваў на імя Іосіфа Сталіна дакладную запіску, у якой зноў адзначыў небяспеку з боку ДАКаў пад Баранавічамі і падкрэсліў неабходнасць знішчэння ўсіх польскіх умацаванняў, якія накіраваны на Усход.


Салдат Войска Польскага на фоне кулямётаў Браўнінга, 1930-я гады

ЮБІЛЕЙНЫЯ ЎСПАМІНЫ

# Гары Паганяйла: БІЎСЯ, САШЧАПІЎШЫ ЗУБЫ

**14 кастрычніка вядомаму беларускаму адвакату і праваабаронцу Гары Паганяйлу спаўняецца 70 гадоў. «Новы час» прапануе фрагменты з успамінаў Гары Пятровіча, якія цалкам друкуюцца ў кнізе «Адвокатские хроники Гарри Погоняйло. Мемуары, документы, публикации».**





З першанцам — сынам Алёшам. Быхаў, 1974 г.

Яшчэ ў дзіцячым доме я не імкнуўся быць паслухмяным і ўзорным. Колькі сябе памятаю, заўсёды быў вымушаны біцца. У невялікіх дзіцячых калектывах станаўленне асобы праходзіць няпроста: да няшчасця, моцныя падмінаюць слабых, а слабыя змушаны падпарадкавацца сіле старэйшага ці мацнейшага.

Гэтай практыкі я таксама на дух не пераносіў — я мог у горла ўчапіцца любому крыўдзіцелю, незалежна ад таго, маленькі ён быў ці вялікі. Я рос ваўчанём. У мяне з дзяцінства цвёрды характар. Можа, таму і займаўся адзінаборствамі: боксам, а калі зрок стаў слабець, захапіўся грэка-рымскай барацьбой. Неабходнасць пастаяць за сябе, не даць сябе ў крыўду была ў мне з дзяцінства.

Аднак і правілы ў нашым дзіцячым доме былі высакародныя: калі нейкае пытанне патрэбна было вырашыць з дапамогай сілы, так і казалі: «Пойдзем стукнемся». Ішлі кожны са сваім секундантам і адразу дамаўляліся: біцца «да першай слязінкі» ці «да першай крывінкі». Дамова добраахвотная. Калі заплакаў, значыць, памарожаны. Але асабіста я ніколі не дамаўляўся «да першай слязінкі» — біўся, сашчапіўшы зубы, «да крывінкі». Такую жорсткасць і злосць я праяўляў, напэўна, свядома, бо разумеў — інакш затопчуць…

***

…Першы раз матуля выйшла замуж у вельмі юным узросце за афіцэра Чырвонай Арміі, але, нарадзіўшы сына Дзмітрыя, у хуткім часе развялася, бо яе муж быў чалавекам дэспатычным, тыранам, і нават пабіваў яе. У другі раз маці выйшла замуж за Паганяйла Івана Фядотавіча, таксама чырвонага камандзіра. Сялянскага паходжання, ён яшчэ ў царскай арміі даслужыўся да звання капітана. Ваяваў у Грамадзянскую. У 1930-я гады камандаваў палком у Беларусі — па суседстве з Георгіем Жукавым, разам з ім скончыў Акадэмію пры Генеральным штабе РККА, а потым быў адпраўлены ў Беларускую ваенную акругу — пад камандаваннем легендарнага чырвонага камандзіра Убарэвіча.

Аднак у 1937 годзе, пасля арышту Убарэвіча і абвінавачвання яго ў шпіянажы і здрадзе, былі арыштаваны фактычна і ўвесь яго штаб, у тым ліку Паганяйла. Маці не верыла ў яго віну і паехала ў Маскву шукаць абароны ў Кліма Варашылава, які добра ведаў іх сям'ю і, бываючы ў Мінску, нават наведваў іх дом.

Выслухаўшы маму, Варашылаў вывяў на твары спагаду і паабяцаў ва ўсім разабрацца, але калі яна, акрыленая надзеяй,



Рэгістрацыя шлюбу Гары Паганяйлы з Зінаідай Бялецкай. Быхаў, 3 сакавіка 1973 г.

вярнулася ў Мінск, на вакзале яе ўжо сустракалі супрацоўнікі НКУС. Судовы вердыкт быў хуткім і бязлітасным: спачатку яе як жонку ворага народа прыгаварылі да расстрэлу, але потым карная машына «змілавалася» — вышэйшую меру пакарання замянілі пятнаццаццю гадамі пазбаўлення волі. Яе яшчэ абвінавацілі і ў шпіянажы, бо не саромелася размаўляць на польскай мове — мове яе сям'і, нават бравіравала гэтым: яе маці, мая бабуля Яцунская Ядвіга Уладзіславаўна — чыстакроўная полька. Атрымаўшы таўро ЧСИР («члена семьи изменника Родины»), матуля апынулася ў адным з паўночных лагераў, што ў вялікай колькасці значыліся на карце Архангельскай вобласці. Ужо ў 1957 годзе, пасля смерці Сталіна і прыходу да ўлады Хрушчова, маці пісала запыты ва ўсе інстанцыі з патрабаваннем не толькі сваёй рэабілітацыі, але і мужа. І была нарэшце рэабілітаваная — разам з Іванам Фядотавічам Паганяйлам. Між іншым, я таксама лічуся ахвярай сталінскіх рэпрэсій, бо беспадстаўна знаходзіўся 8 месяцаў пазбаўлення волі. Першыя тры гады пасля нараджэння я правёў на тэрыторыі лагера, дзе адбывала свой тэрмін мая мама.

***

У 1954 годзе я нечакана апынуўся ў Крыму, дзе мяне сустрэлі пышныя сады, багатыя саўгасы і калгасы з заможнымі сялянамі… Я рос кволым, разоў шэсць хварэў на запаленне лёгкіх, мяне ўжо ледзь не на могілкі збіраліся адносіць, але тут па распараджэнні Мікіты Хрушчова, які прыйшоў да ўлады, нас, аслабленых дзяцей, адправілі ў Крым… Тут, у Крыму, я ледзь не загінуў. Там жа зімы практычна не бывае, але калі ўпадзе сняжок, калі дасць лёгкі марозік, мы, вядома, былі вельмі рады і тут жа станавіліся на канькі. Прычым канькі выраблялі самі: у дзеравяшцы прапальвалі жолаб, у які змяшчалі тоўсты дрот. Або каталіся яшчэ на санках — проста са стромкага беражка. Але ў той раз мы патрапілі з таварышам у прамывіну, якая ўтварылася з-за таго, што ў вадасховішча ўпадала рэчка Салгір.

Нашы санкі пайшлі пад лёд, а мы з таварышам апынуліся пад вадой. Я тут жа сцяміў, што трэба развярнуцца і плыць да палонкі, дзе мяне і чакалі астатнія дзеці, якія ўсё бачылі, — яны кідалі рамяні, палкі, каб выцягнуць мяне. А таварыш мой застаўся пад лёдам… Калі яго дасталі, высветлілася, што ён загінуў не ад таго, што вады нахапаўся, а ад разрыву сэрца. Ён аказаўся не гатовы да такога стрэсу і проста спалохаўся…

***

Тая акалічнасць, што мае бацькі несправядліва прайшлі праз сталінскія лагеры, і падштурхнула, відаць, мяне да выбару прафесіі юрыста: бо адвакат павінен абараняць людзей ад несправядлівасці, ад беззаконня, што ўчыняе ўлада. І калі яшчэ ў дзявятым класе мы пісалі сачыненне на тэму «Кім я хачу стаць?», я так і напісаў: «Хачу быць адвакатам»…

Выбар прафесіі юрыста быў, мабыць, падрыхтаваны жыццёвым досведам і ведамі, што і паўплывала на фарміраванне майго светапогляду, маёй філасофіі (няхай дзіцячай і наіўнай) і майго стаўлення да будучай прафесіі, да таго, чым буду займацца і дзе як асоба павінен буду адбыцца.

Вызначальную ролю тут, відавочна, мела тое, што я шмат чытаў, і ў першую чаргу — кнігі па гісторыі, філасофіі, з серыі «Жыццё выдатных людзей», бо многія выбітныя дзяржаўныя дзеячы па адукацыі былі юрыстамі: Аўраам Лінкальн, Джон Кенэдзі… Апроч таго, маю ўвагу прыцягвала гістарыяграфія пра вядомых расійскіх судовых аратараў: Коні, Аляксандрава, Плявака…

Яны працавалі ў той надзвычайны гістарычны перыяд, калі ў Расіі адбылася так званая судовая рэформа, дзейнічалі суды прысяжных і адвакатура, стаўшы незалежнай, магла, нарэшце, выявіць сябе ў публічных працэсах. У той час яна ўмела даказвала невінаватасць нават тых, хто замахваўся на цара, на кіраўнікоў горада, уключаючы генерал-губернатараў, — дастаткова ўспомніць вядомую пецярбургскую справу Веры Засуліч, якая страляла ў генерала Трэпава, і тым не менш суд прысяжных апраўдаў яе.

Дык вось, пад уражаннем прачытанага і жыццёвых назіранняў я разумеў, што юрыдычная прафесія дасць мне ў жыцці вельмі многае… Думалася, што, атрымаўшы прафесію юрыста, змагу рэальна дапамагаць людзям — каб яны не траплялі ў тыя непрыемныя сітуацыі, якія дзяржава, як капканы, расстаўляе ў нашым жыцці і з якіх выбрацца без дапамогі дасведчанага юрыста проста немагчыма.

Я лічыў гэтую прафесію і высакароднай, і карыснай адначасова. Карыснай не ў сэнсе фінансавага дастатку — проста гэтая праца прыносіла мне ўнутранае задавальненне. Да таго ж яна абяцала спаборнасць. Я ж яшчэ ў юнацтве выходзіў на дыван і змагаўся з супернікам, прыкладваючы ўсе намаганні, каб дасягнуць перамогі. І гадзінамі катаваў сябе фізічна, сотні разоў паўтараў практыкаванні, каб авалодаць адным-адзіным прыёмам ці контрпрыёмам, і ўсё дзеля адной мэты — я хацеў стаць прафесіяналам, я хацеў перамагаць у сутычках…

У юрыспрудэнцыі таксама прысутнічае дух спаборнасці: ёсць следчы, ёсць адвакат, ёсць пракурор-абвінаваўца і абаронца. Мне здавалася, што ў гэтых змаганнях, калі буду валодаць дастатковымі ведамі, калі набяруся досведу, я змагу рэальна дапамагаць людзям. Таму што канфлікты паміж грамадзянінам і дзяржавай былі, ёсць і будуць, прычым незалежна ад таго — таталітарны рэжым у дзяржаве ці дэмакратычнае кіраванне.

***

Звычайна я гавару: калі ў судздзі няма прафесійнай мужнасці кіравацца законам, яму неабходна сысці з прафесіі. А многім сёння не хапае і грамадзянскай мужнасці ажыццяўляць правасуддзе. І ўчыняючы несправядлівы суд — асуджаючы невінаватага, яны тым самым здзяйсняюць злачынства ў тым ліку супраць правасуддзя. Тыя ж справы па Плошчы 2010 года — гэта ўсё неправасудныя прыгаворы.

А колькі такіх неправасудных рашэнняў выносіцца ў Беларусі ў апошнія гады? Тысячы! Так суддзейскі корпус і разлагаецца, бо перастае быць адказным за тое, што робіць, і спадзяецца толькі на тое, што калі ўжо пан-гаспадар загадаў вынесці несправядлівы прысуд, то яму за яго потым і адказваць.

Але не — адказваць будуць усе вінаватыя, у тым ліку і суддзі. Калі я некаторых з іх папярэджваю пра гэта, яны пачынаюць вохкаць: «Ну, вы ж ведаеце, Гары Пятровіч, у якіх умовах мы працуем, чаму мы прынялі тое, а не іншае рашэнне! У нас сям'і, дзеці, нас выкінуць з прафесіі — мы працу не знойдзем!» Я пытаюся: «Дык што, лепш злачынства здзейсніць у мантыі судзейскай?» Многія з іх носяць крыжы, ходзяць у царкву, ставяць свечкі перад абразамі і моляцца перад абліччам Хрыстовым!

Таму не магу трываць ханжаства, проста элементарна не магу іх паважаць. Ды і шматлікія мае калегі-адвакаты таксама даўно змірыліся з рэчаіснасцю і выдатна разумеюць, што ніякай спаборнасці ў нашай прафесіі няма і блізка, таму, маўляў, няма чаго бісер перад свіннямі сыпаць. Навошта напружвацца ў пошуках доказаў невінаватасці ці меншай вінаватасці? «Пракукарэкаў» такі адвакат штосьці ў судзе, а там хоць сонца не ўставай! Вось іх жыццёвая філасофія. Ганарар атрымаў — і дзякуй Богу. І што яму чужыя пакуты?!

Мы жывём у агідны час. І сам я ў прафесійным плане многае страціў і многага не зрабіў толькі таму, што часіна ліхая…

***

…Мяне ў прынцыпе немагчыма спыніць, калі я лічу, што праўда на маім баку, немагчыма заткнуць рот. І калі трэба заявіць публічна пра чарговае беззаконне — я абавязкова гэта зраблю. Няхай нават збоку гэта выглядае, быццам кідаюся на амбразуру, — гэта гучыць, вядома, гучна, але фактычна часам так і атрымліваецца. Свой выбар я кожны раз рабіў свядома і прынцыпова, па ўсіх без выключэння стратэгічных пытаннях свайго жыцця. Таму і шкадаваць мне няма пра што. Дый дарогі назад, як вядома, няма.

ВЫСТАВА

# «НЯЎЛОЎНЫ МІГ СХАПІЦЬ...»

Марат ГАРАВЫ

**Фотавыстава Міколы Лінніка адчынілася вечарам 9 кастрычніка ў Мінску, у мастацкай галерэі «Вільнюс», што месяцца ў гарадской публічнай бібліятэцы №18 на Каліноўскага, 55.**


МіколаЛіннік сярод сваіх твораў


Фота Марата Гаравога

Родная вёска

У экспазіцыі, прысвечанай 50-годдзю творчай дзейнасці аўтара і ягоным бацькам, якія сышлі ў лепшы свет, прадстаўлены 77 фотаздымкаў розных гадоў, зробленых на Беларусі і Украіне.

Мікола Ліннік нарадзіўся 3 сакавіка 1954 года ў вёсцы Порычы на Валожыншчыне (Мінская вобласць). Пасля заканчэння Мінскага радыётэхнічнага інстытуту (МРТІ) больш за 30 гадоў працуе інжынерам у філіі міжгароднім сувязі «Белтэлекаму». Краязнаўствам, журналістыкай і фатаграфіяй захапляецца са школьных гадоў. Інфармацыйныя, публіцыстычныя і краязнаўчыя матэрыялы Міколы Лінніка публікаваліся ў многіх мясцовых і нацыянальных газетах, а таксама ў часопісах «Дзеяслоў» (Беларусь) і «Военна історія» (Украіна). Свае фотаздымкі аўтар неаднаразова дэманстраваў на розных выставах у Беларусі і Расіі.

Як адзначыла дырэктарка бібліятэкі Алена Сухадолава, за 15 гадоў існавання галерэі «Вільнюс» сваю творчасць у ёй прадставілі каля 200 мастакоў і творчых калектываў. «Прычым кожны творца, які выстаўляецца ў нашай галерэі, дорыць ёй адну са сваіх прац. Так што ў нас утварыўся выдатны збор твораў айчыннага выяўленчага мастацтва, які экспануецца як у Беларусі, так і за яе межамі», — сказала дырэктарка бібліятэкі.

Паводле яе слоў, экспазіцыя прац Міколы Лінніка — адна з нямногіх фотавыставаў у мастацкай галерэі. «Я шмат гадоў ведаю гэтага апантанага чалавека як нашага чытача. Я лічыла, што гэты творца, які дасканала валодае беларускай мовай, з'яўляецца навукоўцам ці літаратарам. Аказалася, што Мікола Ліннік — прафесійны інжынер, які захапляецца айчыннай гісторыяй і культурай, друкуецца ў перыёдыцы, грунтоўна даследуе падзеі, звязаныя са славутай перамогай войскаў Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Альгерда над татарамі ў бітве на Сіняй Вадзе, што адбылася каля вёскі Уланіў на Віннічыне ва Украіне восенню 1362 года. Акрамя таго, Мікола Ліннік сур'ёзна захапляецца фатаграфіяй і сёння прадставіў нам гэтую цудоўную выставу, якая цэлы месяц будзе цешыць чытачоў і супрацоўнікаў бібліятэкі», — сказала Алена Сухадолава.


Папараць-кветка з незабудкай

Куратар выставы, мастацтвазнаўца Кацярына Зверава падкрэсліла, што галоўнае ў працах Міколы Лінніка — любоў да сваёй Бацькаўшчыны, добры настрой на ўсё светлае і прыгожае, без чаго цяжка жыць, талент убачыць гэты свет і прыгажосць, спыніцца перад імі, каб зафіксаваць і падарыць людзям.

Аўтар выставы звярнуў увагу на тое, што яе назва «Няўлоўны міг схапіць...» — з верша паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міхася Башлакова. «На самай справе, фатографу амаль немажліва паўтарыць той момант, калі шараговы здымак становіцца творам. Так, у экспазіцыі дэманструюцца здымкі папараць-кветкі, зробленыя ў адным месцы з інтэрвалам у год. На першым здымку сярод папараці расквітнела турэцкая гваздзічка, а на другім — прарасла незабудка. Я не аднойчы спрабаваў зрабіць паўторныя здымкі некаторых месцаў, але кожны раз атрымлівалася нешта новае, непаўторнае. Як непаўторная наша маладосць і нашае жыццё», — сказаў Мікола Ліннік.

На ягоную думку, станоўчыя адносіны да жыцця дазваляюць перамагчы ягоныя шматлікія складанасці і праблемы. «Вось чаму паўсюды я шукаю прыгажосць. І нездарма выбраў для выставы менавіта гэты час, калі прырода рыхтуецца да зімовага сну, але яшчэ не страціла сваёй восеньскай прыгажосці», — сказаў фотамастак. Ён выказаў шчырую ўдзячнасць куратару выставы Кацярыне Зверавай за тое, што яна ўклала сваю душу ў гэтую экспазіцыю.

Міколу Лінніка павіншавалі яго былыя аднакласнікі і студэнты МРТІ, калегі па працы, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі і сябры.

Выстава працуе па 11 лістапада.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1245

Падпісана да друку 11.10.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.